# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1971
Ліпень-
Жнівень-
Верасень

Год XIX

№ 4 (127)

ЗЬМЕСТ:

СУЧАСНЫЯ САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАБЛЕМЫ • «КАБ ТЫ ВЕДАЛА ДАР БОЖЫ...» • ХРЫСТОС І МАЛАДАЯ АМЭРЫКА • СЛОВА АБ ПАКУЦЕ • НАША ЭПОХА • РЭЦЭНЗІЯ: LIKE WATER, LIKE FIRE • З ЦАРКОЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ • З НАШАЕ МІНУЎШЧЫНЫ: НАШ ТЭАТР • З НАЙДАЎНЕЙШАЕ МІНУЎЩЧЫНЫ • УСПАМІНЫ АБ АДОЛЬФЕ КЛІМОВІЧУ • ПІШУЦЬ ДА НАС • З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ • «АДНАК ЦЯГНЕ...» • РАЙ-ПЕРШЫЯ ЛЮДЗІ • ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ • СУЧАСНЫЯ ЖАРТЫ

© PDF: Kamunikat.org 2010

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY., Gt.Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар

ON GOD'S HIGHWAY

Year XIX July—August—September № 4 (127)
1971

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE,
LONDON, N. 12, 8 HY ENGLAND

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XIX ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ № 4 (127)

# Сучасныя сацыяльныя праблемы

У гэтым годзе Павал VI-ты выдаў Апостальскае Пасланьне з нагоды 80-ці год Энцыклікі Лявона XIII «Рэрум Новарум», прысьвечанай справе работнікаў. У сваім Пасланьні Павал VI паддае дакладнай аналізе новыя сацыяльныя праблемы і выказвае патрэбу рашаць іх у хрысьціянскім духу. У апошнім часе дайшла да нябывалага росквіту навука і тэхніка. І ўзнікла ў чалавецтва глыбокая сьведамасьць сваіх правоў, чуласьць на крыўды і жывая туга па свабоддзе, але і зьяўляюцца ў грамадзкім жыцьці вялікія зьмены. Вось некаторыя з іх:

### РАЗРОСТ ГАРАДОЎ

Масавы паўстае пераход людзей з правінцыі ў гарады, дзе не хапае для іх працы і прытулку: так павялічваюцца масы беспрацоўнага пралетарыяту, якія ўпадаюць ў нястачу дый галечу. А самыя гарады разрастаюцца ў вялізарныя зборышчы, дзе не хапае ім неабходных уладжаньняў — як электрычнасьць, вада, каналізацыя і інш. Так фармуюцца цэнтры, асяродкі багатыя, дый прадмесьці запушчаныя і абяднелыя. Дык ляжыць вялікі абавязак на хрысьціянстве ліквідаваць такую дыспрапорцыю, праводзіць неабходныя рэформы, даваць працу і належную аплату і дзяліцца ня толькі «куском хлеба», але і выгодамі жыцьця!...

### ХВАЛІ ЭМІГРАНТАЎ

Дзеля матар'яльнага недастатку або прасьледу палітычнага ці рэлігійнага (як у Усходнім Пакістане) наплываюць «хвалі» эмігрантаў або уцекачоў, якія ратуюць жыцьцё ці шукаюць хлеба: таму і гэтым трэба знайсьці работу і памешканьне! А хрысьціяне ня могуць адмовіцца ад помачы. Дый эмігранты павялічваюць лік безработных, а сучасная тэхніка звальняе занятых работнікаў сваей аўтаматызацыяй...

### ЖАНЧЫНЫ

Цяпер ледзь ня ўсюды бачым, што ў публічным жыцьці жанчыны зраўняліся з мужчынамі: жанчына вышла з кухні і з дому і стала да варштату працы мужчынскае! Ну, гэта і добра і дрэнна!...

Праўда, лягчэй зарабіць на пражыцьцё, але жанчына адрываецца ад дзяцей — бракі ў выхаваньні і догдядзе, брак у любові і цяпле супольнае сям'і. Дык вось абавязак грамадзтва — лепш арганізаваць правадаўства, каб жыцьцё складалася паводля пляну Самога Творцы і згодна з законамі прыроды.

### МОЛАДЗЬ

Моладзь штораз больш даходзіць да голасу ў публічным жыцьці з недаверам да старшых і да ўсіх парадкаў, якія яны стварылі. Але-ж сама моладзь не мае яснай візыі новага жыцьця. Дык патрэбная супраца й дыялёг паміж старшым і малодшым пакаленьнем: толькі так магчыма знайсьці разьвязку цяжкасьцяў. Аднак такі дыялёг не ўдаецца, а разлад паглыбляецца — ня толькі ў публічным, але і ў сямейным жыцьці. Што рабіць?...

Старшыя мусяць пайсьці на ўступкі і арганізаваць размовы з моладзьдзю, прыймаць у супрацу дый уводзіць рэформы. А моладзь павінна вучыцца ня толькі тэарэтычна, але і практычнага новага жыцьця, а ня толькі пратэставаць, хадзіць на маніфэстацыі і — тымгорш — рабіць шкоды, пераварoты, злоўжываньні, аддавацца ляніўству, п'янству ці наркотыкам!... Моладзь павінна рыхтавацца да прышлае працы, каб магла будаваць новае жыцьцё і адказваць за яго. Папа заклікае моладзь да сапраўднага адраджэньня, ды пашаны свайго здароўя духовага і фізычнага і да пашаны іншых людзей.

### РУПЛІВАСЬЦЬ ПРА АСЯРОДЗЬДЗЕ

Сучасная тэхніка штораз больш атручвае і нішчыць людзкое навакольнае асяроддзе і прыроду, як ваду, паветра, зямлю і жывую прыроду. Дык бачыцца дзіўная недарэчнасьць і супярэчнасьць: з аднаго боку чалавек карыстае з багацьцяў прыроды, каб палепшыць сваю працу і жыцьцё, а з другога боку — нішчыць, псуе і забруджвае ці атручвае сваё навакольле і робіць яго сабе небясьпечным. Папросту людзі страцілі кантроль над сваею гаспадаркай і дзейнасьцю.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Ня менш атручваецца і духовае навакольле сродкамі інфармацыі, як радыё, тэлевізія, фільм, відовішчы, прэса і інш... Гэта таксама, як і атручваньне прыроды, становіцца сусьветнай праблемай, якую трэба найхутчэй рашыць і направіць, каб не марнавалася чалавецтва на плянэце і жыцьцё на ёй!

### ІМКНЕНЬНЕ СУЧАСНАГА ЧАЛАВЕКА

Сучасны чалавек дамагаецца р о ў н а с ь ц і, яму належнай, і адказнасьці за жыцьцё, бо хоча быць поўнавартасным: роўны падзел дабра і адказнасьць за ўсё! Поўная свабода і прызнаньньне людзкой годнасьці. Бяз сумніву ўсе людзі маюць на гэта права — паводле Божае установы і ніхто ня можа адмовіць чалавеку ягонага права. Ад гэтага залежаць здаровыя ўмовы грамадзкага жыцьця.

### ЯКОЙ ДАРОГАЙ ДА ГЭТАГА ІСЬЦІ?

Папа зазначыў, што хрысьціяне ня могуць надтрымліваць сацыялізм і камунізм, бо яны адкідаюць веру ў Бога і вядуць да клясавай ненавісьці і барацьбы. Дый у іх адзінка або група пазбаўлена ініцыятывы і свабоды на карысьць партыі, якая зьўляецца найвышэйшым аўтарытэтам у кажнай галіне жыцьця. Для адзінкі астаецца толькі выканаўчая роля, не заўсёды згодная з яе пераканаsuccessьнем і дабром. — Дый ня можна будаваць людзкога жыцьця, адкідаючы Бога і Ягонае Права, а ўводзячы клясавую ненавісьць і барацьбу. Гвалт і тэррор ня ёсьць нармальным сродкам направы жыцьцёвага парадку: усё гэта супярэчнае з навукай Хрыста і з чалавечай натурай.

Таксама хрысьціянін ня можа прыняць лібэралізму, які ня прызнае агульнага дабра, але пакідае яго на самаволю адзінкі. І наагул Папа асьцерагае перад утапійнымі тэорыямі, якія зьяўляюцца пры хваравлівых умовах грамадзкага жыцьця.

### ПРА ЯКІ ПРАГРЭС СТАРАЦЦА?

Слова п р а г р э с вельмі папулярнае і зманлівае. Але вартасьць прагрэсу залежыць ад таго, да чаго чалавек імкнецца. І тут у духу сучаснае навукі тасуюць да прагрэсу катэгорыю колькасьці, «каб найбольш зрабіць і каб найбольш зарабіць!». А сьвятло в е р ы паказвае глыбейшы і багацейшы зьмест жыцьця. Вера ня выключае матар'яльных справаў, але імкнецца да таго, коб унармаваць адносіны да Бога і да бліжняга: якраз у гэтым неабходны найбольшы прагрэс! Разьвіцьцё духовых вартасьцяў паможа стварыць здаровыя ўмовы грамадзкага жыцьця, навесьці справядлівы падзел матар'яльнага дабра і зьліквідаваць усялякую дыскрымінацыю.

### ЗАКЛІК ДА ХРЫСЬЦІЯНАЎ

У выніку Папа заклікае ўсіх вернікаў, асабліва каталікоў, да будовы новага чалавечага жыцьця, абапёртага на хрысьціянскіх прынцыпах: выракацца спакусаў самалюбства і панаваньня над іншымі, супрацоўнічаць з сабою ў аднове парадку і ў прагрэсе, не зважаючы на розьніцы нацыянальныя ці рэлігійныя. І супрацоўнічаць нат з няверучымі, асабліва ў навуковых досьледах. Ясная справа, што нельга уключацца ў якую-небудзь праграму, якая была-б супярэчная з хрысьянскім духам.

---

*Д. Анісько.*

## „Каб ты ведала дар Божы...“

(Ян 4, 10)

Здарылася мне мець аднойчы вялікія труднацьці, — ня тое каб натуры вышэйшай-духовай, але звычайныя-тымчасовыя. Але міласэрны Бог нават і ў няважных турботах людзям памагае, калі пра гэта Яго просім і калі гэта ня супраць ягонай сьвятой волі. Чалавек можа яшчэ толькі падумае зьвярнуцца да Бога — нават мо' й ня ён сам, а іншы за яго памоліцца, а помач надыходзіць...

Мае сваякі там у Краі, ня ведаючы аб маіх турботах, а толькі з удзячнасьці — (я ім часамі чымсьці памагаю) — замовілі там на маю інтэнцыю сьвятую Імшу і вось — неяк сама сабой — зьявілася ў мяне трапная думка, як памысна загалодзіць тыя мае турботы, што дало мне здаваленьне і супакой душы.

Можа гэта быў звычайны прыпадак, але скарэй памагала сьвятая Імша...

Гэта-ж ведамая справа, што мы можам і павінны маліцца за сябе і за другіх, асабліва праз Найсьвяцейшую Ахвяру Імшы. А Ўсёмагутны Бог, калі гэта згодна з Яго намерамі, нашыя просьбы прыймае і спаўняе. Аднак, на жаль, вялізная колькасьць хрысьціян абыякава адносіцца да гэтае справы і не карыстае, хоць мае магчымасьць, з гэтага «дару Божага» — з «крыніцы жывой вады» — з тых нязьмерных вартасьцяў сьвятой Імшы! А гэ-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

та-ж дабрадзейная помач, крыніца усялякіх Божых ласкаў — Хрыстовая Ахвяра. Дык да гэтых абыякавых вернікаў вельмі блізка тасуюцца тыя словы Збавіцеля да Самарытанкі: «Каб ты ведала дар Божы! . . .»

*

І таксама гэтыя словы Хрыста вельмі прыдаюцца да тых краінаў, дзе проста забараняецца ўсялякі рэлігійны культ, дзе не даюць доступу сьвятаром, дзе няма духоўных сэмінарыяў, каб ня было каму служыць сьвятую Літургію. Значыць, там няшчасныя людзі ня могуць карыстаць з «Божага дару».

«Жніво вялікае, а жанцоў мала». (Мат. 9, 37). Але і для самае малое колькасьці місыянэраў, якія хацелі-б туды ісьці і працаваць, на вялікі жаль, няма доступу — ключы да «Божага дару» адабраныя, «крыніца жывой вады» засыпана! . . . І місіянэры знайшліся-б, людзі ахвотна-бы іх прынялі: людзі добрыя не шкадавалі-б супрацы і ахвяраў, а сьвятары — свайго здароўя, нават і жыцьця . . . памаглі-б людзям і ў справах духоўных дый і ў дачасных . . .

Ці-ж не карысьней прапагаваць любоў Бога і бліжняга, чым ненавісьць, якая грызе душу і арганізм чалавека і ўсяго грамадзтва? Ці-ж не карысьней навучаць у школах рэлігіі, чым марксізму-ленінізму? Дый тыя ўлады, што забараняюць служыць Богу і прасьледуюць рэлігію, самі страцілі лучнасьць з Богам — з гэтай запраўднай «Крыніцай» усялякай дабраты, праўды і справядлівасьці, — ці не пасьпелі пазнаць Бога, — яны за турботамі дачаснымі не маюць паняцьця аб справах вышэйшых.

О, добры Божа, зжалься над грэшным сьветам! Прасьвяці тых, што неразважна ці абыякава адносяцца да справаў рэлігійных! Але яшчэ горш з тымі, што да рэлігіі адносяцца варожа: крыўдзяць і змагаюцца з ёй, бо яны робяць шкоду ня толькі сабе. але й другім людзям, пазбаўляючы іх многіх карысьцяў на зямлі дый тымбольш — найважнейшая справа — ставяць у небасьпеку страты вечнага шчасьця!.

Аднак кажная асоба — кажная адзінка ці грамада скарэй-бы дабілася гэтага шчасьця, каб «ведала дар Божы і Таго, Хто з ёй гаворыць . » Але што-ж гаварыць аб тых, якія і самі адвярнуліся дый і другім не даюць магчымасьці пазнаць і шукаць Стварыцеля і Збавіцеля чалавека і ўсяго чалавецтва? . . .

---

*Др. Т. Падзява*

# Хрыстос і маладая Амэрыка?

Таму некалькі гадоў у Сан-Францiско пачаўся асаблівы ўзрух сярод моладзі: гэтыя дзівакі назваліся «дзяцьмі красак», а іхнім лёзунгам была «любоў і мір». Аднак змаганьне за мір праяўлялася ў бойках падчас дэманстрацыяў, а «любоў» нічым ня розьнілася ад пагалоўнага грэху, дый яшчэ да гэтага даходзіла наркаманія! Гэты рух асягнуў найвышэйшую ступень таму два гады на фэстывалі ў Вудстоку, куды моладзь сабралася слухаць рок — музыку. На памятку гэтага фэстывалю быў накручаны фільм, які меў мэту прапагаваць гэты «рух». Калі аднак сёлета летам хацелі паўтарыць фэстываль у Люізіяне, спроба праваліласа з трэскам: між удзельнікамі пачаліся бойкі — былі два забітыя, адзін утоплены — аж нарэшце, на просьбу мясцовых жыхароў, паліцыя разагнала ўвесь гэты балаган! . . .

Зьбянтэжаная моладзь пачала разважаць: «Што далей?» Думка, каб разбурыць увесь існуючы парадак, да чаго імкнуліся «гіппі» дый «унівэрмэны», не ўдалася і падкладаньне бомбаў спынілася: так гэты скрайні напрамак пачаў занікаць. А думка, што трэба рэзаць багачоў, каб ратаваць іх «ад сьвінскага жыцьця», паказалася ім самым агідная. І шмат каго выцьверазіў прысуд на сьмерць Мансона і ягонай банды . . .

І вось урэшце адумаліся, што ёсьць яшчэ адзін шлях: знайшлі яго ў навуцы Хрыста! — Вось як апісваюць яны сваё адкрыцьцё:

— Шукалі і знайшлі Ісуса Хрыста, які называе Сябе Месіям — Божым Сынам, Царом цароў, Князям сусьвету.

— Ён быў абвінавачаны ў тым, што лячыў людзей, рабіў віно і карміў людзей, не маючы на гэта дазволу.

— Разбурыў гандаль-бізнэс у сьвятыні.

— Еў і піў з злачынцамі, тэррарыстымі, прастытуткамі, хуліганамі.

— Але Ён казаў, што меў ўладу ад Айца перамяніць людзей у Божых дзяцей!

— А выглядаў, як «гіппі»: доўгія валасы, барада, доўгая вопратка і сандалі.

— Бадзяецца па завулках і між бядотай, а часта выходзіць у пустыню.

Увага! Зводзіць людзей, баламуціць моладзь, каб усё «раздавала», але абяцае людзям поўную свабоду!



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010



Сьцвярдзіўшы вонкавае падабенства, «гіппі» пачалі паважна зьвяртацца да Хрыста і кажуць, што «Хрыстос увасабляецца ў жывую веру моладзі». Дык усё, што чытаем у Біблії, ёсьць чыстая праўда! І цуды таксама магчымы; а Бог так палюбіў сьвет, што каб ратаваць людзей, аддаў на мукі і на сьмерць свайго наймілейшага Сына! . . .

Цяпер «гіппі» з націскам паўтараюць: «Дзе двое або трое — у Імя Маё, там і Я — між імі!» І тыя юнакі, што паверылі, прызнаюць усе дзесяць Божых загадаў і ў выніку рэзка мяняюць сваё жыцьцё! . . . Так гэтыя «новыя хрысьціяне» цьвёрда вераць у самую блізкую прысутнасьць Ісуса Хрыста і ў лучнасьць з Ім, бо Ён кіруе лёсам чалавека.

Калі ў 1966 Джон Ленон гаварыў, што ангельскія біттлы больш папулярныя чым Хрыстос, дык цяпер іх іншы правадыр, Жорж Гаррысон, сьпявае: «Мой Дарагі Госпад! . . .» І маладыя хлапцы дый дзяўчаткі, з яснымі тварамі, веручы, што Сьвяты Дух зыйшоў на іх, навучаюць на бульвары ў Голлівуд і ў Лёс-Анджэлес — пад памятнікам Лінкольна і ў Далляс, у Дэтроіт дый у інш. Адкрываюцца кафэтэрыі з назвай: «Слова сьвятога Пісьма» ў Нью Ёрку, або «Катакомбы» ў Сэатлі. А ў Сан-Антоніо перафармавалі бар на хрысьціянскі клюб. На расхват купляюць Біблію. А сьпявак Ларры Норман прыраўнаў новы рух да ледавіка, што расьце з кажнай хвілінай. Аптымізм і вера ўзрастае, а Біль Брайт, заснавальнік «Крыжовага Паходу ў Імя Хрыста» высказаў, што за пяць гадоў усе людзі ў Злучаных Штатах навернуцца да Хрыста, а за 10 новая хваля веры ахопіць увесь сьвет!

Аднак стаіць перад сьветам пытаньне: — Ці гэты паварот да Хрыста ня ёсьць чарговым капрысам моладзі, што шукае праўды? Так, у гэтым руху ёсьць нямала дзіцячага і наіўнага. Напр., часта ў тэлефоне замест «Галлё!, кажуць: «Хрыстос любіць Вас!». Прадаюцца кашулі з надпісам: «Ісус — мой Госпад», ці на самаходах: «Бог нас палюбіў». Паказалася безьліч мэдаляў, спражак, падвязак і гадзіньнікаў на руку з словам: «Гасподні». У гутарцы можна пачуць сказы: «Слаўце Госпада!», «Будзьце багаслаўлёны!». І ў знак прывітаньня — замест савецкага кулака — падыймаюць палец, паказваючы на неба — перасьцярога: «Помні аб Богу!»

Хоць усё гэта — толькі драбяза аднак пануе перакананьне, што карэньні новае веры значна глыбейшыя. Малады Рычард Гох уважае, што моладзь у сваіх пошуках знайшла нарэшце любячага Айца — у вобразе Ісуса Хрыста. Хрыстос прыцягнуў маладняк сваей глыбокай навукаю любові. Дык трэба думаць, што гэтая вера акажацца стойкаю, бо тыя, што навярнуліся 2—3 гады таму, яшчэ й цяпер верхаводзяць у гэтым руху. Доказам таго, што іх вера моцная, ёсьць тое, што адвярнуліся ад наркотыкаў.

Не заўважаецца ў іх розьніцы між веравызнаньнямі: аднолькава наведваюць сьвятыні каталіцкія ці пратэстанскія. Адзін з іхніх лідэраў сказаў: «Мы ўсе — браты ў целе Хрыстовым». Другі місіянэр у Каліфорніі сказаў: «Мы знайшліся на парозе найбольшага духовага абнаўленьня, якога Амэрыка ніколі яшчэ не перажывала! . . . »

---

а. Я. Г.

# Слова аб пакуце

**Што значыць пакута? І чаму трэба пакутаваць?**

1. Пакутай называюць людзі ўсялякую цяжкасьць у жыцьці, у здароўі, працы, ці ў суседзтве або ў сям'і. Кажуць, напрыклад: «Пакута нам з нашымі суседзямі або: з такой праклятай работай!»

Аднак тут мова аб пакуце духовай.

Гэтая пакута будзе тады, калі пакорна ўніжаемся прад Богам з жалем за грахі, з малітвай і добрымі ўчынкамі, як пост, ахвяра, цярплівасьць . . . А пакута, як сакрамант-таінства — гэта ёсьць жаль за грахі із споведзяй. І гэта ўжо самая важная пакута, таму, што добрая споведзь дае поўнае адпушчэньне грахоў: такі чалавек, адпакутаваўшы, адыходзячы чуецца якбы нанава ахрышчаны!

І яшчэ ў практыцы называюць «пакутай» тую маленькую кару, як малітвы ці добрыя ўчынкі, што спаведнік назначае «за пакуту» — «епітімія». Але гэта ёсьць толькі частковая адплата — узнагарода Богу за нашыя грахі.

Хоць нам грэшным трэба заўсёды пакутаваць, асабліва, калі хто ўпаў у цяжкі грэх, але ёсьць і асобныя дні і час пакуты, як Вялікі пост і перад Калядамі (Адвэнт-Філіпаўка). А наагул пакутным днём лічыцца кажная пятніца.

А ёсьць яшчэ спэцыяльнае набажэнства для пакуты, як Крыжовая Дарога і пакутныя песьні-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

«псальмы». Дзеля таго, што Давід быў прарокам і паэтам дый улажыў псальмы, ў якіх славіць Бога, дзякуе Богу, просіць аб помач і пакутуе за свае грахі, дык гэтыя псальмы-малітвы ўвайшлі ў набажэнства ўсіх хрысьціянскіх народаў.

**II. Чаму трэба пакутаваць?**

Сама натура чалавека вымагае паправы і дасканаласьці, значыць, пакуты. І ў прыродным жыцьці трэба пільнасьці і паправы, напрыклад, будынкі вымагаюць рамонту, перабудовы, аздобы; вопратка патрабуе чысткі, папраўкі, прасушкі... А ў хваробе трэ лячыцца; а гэта вымагае цярплівасьці, агранічэньня, лякарства, дыеты, супакою, нават часам апэрацыі, значыць, пакуты. Таксама пакутай зьяўляецца праца, навука, выхаваньне, парадак, чыстата і інш., а нават забава! Напрыклад, колькі трэба напацецца, каб навучыцца добра танцаваць! А вазьміце спорт: які сьціслы пост практыкуюць гімнасты, цыклісты, джокеі і атлеты або астранаўты! Усім ім трэба асобных лекараў дый інструктараў, што іх гартуюць і даглядаюць. І ніхто гэтага не асуджае; а нават уважаецца, што разумна робяць тыя дзяўчаты, якія «для таліі» назначаюць сабе вострыя і працяжныя пасты.

А бывае часамі пост штучны ці нават злачынны. Такі «вялікі пост», што трывае больш як паўвеку, назначылі камуністы ўсяму прымусоваму Саюзу. Бо і як зразумець такое агранічэньне ў такой багатай краіне?... Ад пары да пары прарываюцца ў іхных верхаводаў такія прызнаньні, што «галодны чалавек не здатны да бунту...» Так апісаў савецкі быт адзін з нашых паэтаў:

> На будоўлі, пры рабоце,
> Ён у пыле, у балоце
> Так згубіўся ў тым народзе,
> Што забыўся аб выходзе,
> Аб парадку, аб свабодзе
> І аб норме, аб сыстэме,
> Бо... хлеб чорны быў ў праблеме!

І так худзенькі конік у дрэннага гаспадара, выпрэжаны з плуга, стараецца скубнуць траўкі: яму не ў галаве пабегаць, паскакаць, павесяліцца ці пазнаёміцца з іншымі коньмі.

Дык тым больш у надпрыродным парадку, дзе трэба ратаваць-лячыць хворую душу, якая ўпала ў цяжкі грэх — тут трэба вельмі сьціслай пакуты, каб паўстаць з грахоў, каб паправіцца дый вытрываць у добрым жыцьці і каб адплаціць Госпаду Богу за прычыненае зло!

Сьвяты Павал Апостал заклікае вернікаў да пакуты і паказвае ім прыклад спартсмэнаў у Грэцыі, як яны пакутуюць: посьцяць для таго, каб атрымаць «крохкую нагароду, якая псуецца»; а мы — кажа — бяжым да мэты, што ня псуецца, ня гіне, значыць, да вечнага шчасьця.

Аднак найлепшая будзе пакута, калі з ёй лучыцца споведзь; але яна ёсьць і самая трудная! Дык вось тут трэба і малітвы, і ахвяры і цярплівасьці і сораму... Гэта ёсьць, якбы назваць, духовая апэрацыя або лазьня, дзе наступае абмываньне й чышчэньне — з мылам, шчоткай і гарачай вадою! А якраз тут самае істотнае — шчырасьць прызнаньня, сьлёзы пакуты, поўная ахвяра з свайго самалюбства і пакора перад Богам і людзьмі.

А наважнейшае, што ў споведзі дзеіць спэцыяльная Божая помач — «ласка сакраманту — пакуты», праз якую чалавек вертаецца да Бога, як блудны сын да Айца. І вось вялікаму грэшніку шчырая споведзь зачыняе пекла дый адчыняе неба. І усё гэта мы дастаём праз заслугі нашага Збавіцеля Ісуса Хрыста — праз ягоную крыжовую сьмерць. Да гэтага далучаюцца заслугі і пакута Найсьвяцейшай Дзевы Марыі і Божых Сьвятых. І таксама мусяць да гэтага прылучыцца і нашыя малітвы, ахвяры і добрая пакута.

**III. Значэньне пакуты.**

Пакута мае вялікае значэньне для чалавека, для сям'і, для грамадзтва і для ўсяго сьвету. Родзіцца чалавек ня толькі для свайго шчасьця, але і для славы і карысьці іншых: калі-ж чалавек праз грахі і злачынствы псуецца, дык шкодзіць і другім; а калі пакутуе і папраўляецца, дык наступае ягонае адраджэньне. І як кажная будова патрабуе догляду і папravак, а кажны камень і цэгла нясе сваю цяжкую службу ў будынку, так і мы, слабыя людзі.

Затое і вялікі пакутнік Ян Хрысьціцель клікаў да пакуты: — Пакайцеся, бо набліжаецца Нябеснае Валадрства. Гатуйце дарогу Госпаду. (Мат. 3, 2-3).

І Сам Хрыстос, найбольшы Пакутнік сьвету, заклікаў: — Споўніўся час... пакутуйце і верце Эвангеллю (Марк 1, 15).

А Хрыстос прыгразіў: — Калі не пакаецеся, усе разам загінеце!

І сьвяты Пётр Апостал у навуцы да жыдоўскага народу казаў: — Пакайцеся і навярніцеся, каб былі зьнятыя з вас вашыя грахі. (Апост. Дзеі 3, 19).

Колькі цяпер старых і слабых людзей хацела-б адмаладзіцца, аднак ніякія сыстэмы, ні лякарствы не памагаюць! А вось у духовым значэньні магчыма — праз пакуту — і адмаладзіцца і ўваскрэснуць да новага жыцьця ў Богу!...

Асабліва ў цяперашнім часе, калі бязбожны Антыхрыст трымае ў крывавых руках атамную бомбу над няшчасным сьветам, каб яго загубіць, цяпер надыйшоў найпільнейшы час **пакуты**. Дык труднасьці сьвету усьцяж нарастаюць: небасьпека — атручаньне паветра і вады, а таксама голад і недаяданьне ў бедных краёх, нязго-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

да Усходу і Захаду — ўсё гэта пагражае згубай усяму людзтву!

А Хрыстос, гаворачы аб канцы сьвету, казаў: — І вы будзьце гатовы, бо Сын Чалавечы прыйдзе ў гадзіну, у якую ня думаеце.

Бо можа Бог дапусьціць, што нягодны Злыдзень спрычыніцца да згубы нягодных людзей, якія не дбаюць ці ня хочуць быць «гатовымі», значыць, ня думаюць аб шчырай пакуце. А затое тым, якія старанна служаць Богу, а ў памылках і грахох пакутуюць, Бог-Гаспадар скажа: — Добра, слуга добры і верны! Ты ў малым быў верны, а я над вялікім цябе пастаўлю: увайдзі ў радасьць Гаспада твайго! (Мат. 25, 23).

На шчасьце для сьвету ёсьць людзі, якія із самай чыстай любові да Бога і бліжняга пакутуюць і за сябе і за другіх: ахвяруюць усе свае цярпеньні, працу, малітвы, ахвяры і ўсю сваю пакуту за грэшны сьвет, за наварот грэшнікаў і бязбожнікаў і на адплату Богу за ўсё зло, якое дзеіцца на сьвеце. Яны ня толькі памагаюць Хрысту несьці крыж, але і самі сябе аддаюць на крыж і сьмерць. — О, Бог вельмі патрабуе такіх «дзесяці справядлівых і праз іх яшчэ трымае гэты грэшны сьвет. І я сам — таксама праз шчырую пакуту — пастараюся да іх ліку прыпісацца!...

*

Як жыў Сталін, дазваляў сябе называць «Бацькам усіх народаў» — тытул, які належыць толькі Богу. І называлі яго «абаронцам міру і патронам згоды». А ён вынішчыў дзесяткі мільёнаў нявінных людзей, а колькі мучыў у лягерах і турмах! — Дык ягоны «мір» — гэта было ашуканства, бо ня можа злы дух-анёл злосьці — быць анёлам міру і згоды!

І наш народ, вынішчаны суседзямі і далёкімі ворагамі, асабліва многа выцярпеў ад гэнага «бацькі народаў»: з нашага прыгожага краю зрабілі «Вялікую Пустыню» — аж пакасавалі вобласьці і раёны! — Сапраўды, наш народ — вялікі Пакутнік. Дык трэба нам пакутаваць з думкай аб Богу і нашых братох. Каб мы не пакутавалі тупа і неразумна. Малімося шчыра, з верай і любоўю, а Хрыстос споўніць што сказаў Апосталам: «Я не пакіну вас сіротамі: прыду да вас». Аман.

---

а. Т. П.

# Наша эпоха

Наагул уважаецца, што наша эпоха адраклася ад усіх маральных вартасьцяў і крытэрыяў, што ня прызнае аўтарытэтаў і што гатова апраўдаць найбольшае злачынства...

Хоць гэта мо і так, але ня зусім так! Бо з другога боку трэба прызнаць, што ніколі яшчэ сумленьне чалавецтва і сумленьне кажнага асобнага чалавека ня было дасюль так раскрытае і так уражлівае на праявы зла, як у нашым часе. І, калі гэта праўда, што нашая эпоха сталася эпохай таптаньня ўсялякіх аўтарытэтаў, дагматаў і сьвятасьцяў, дык ці не сталася гэта часам таму, што людзі дайшлі да прakананьня, што сьвятасьць нехта падмяніў і сфальшаваў, а дагматы — таксама; а баронячыя іх аўтарытэты самі страцілі сваю вагу?

Ніколі яшчэ дасюль чалавецтва ня перажывала так балюча сваіх уласных грахоў, як іх перажывае цяпер! І ніколі яшчэ веручыя людзі — (ня толькі хрысьціяне, але і не-хрысьціяне) — так ясна не бачылі, што сусьветныя падзеі гэта ёсьць суд Божы над імі, — над гісторыяй, якая паддалася спакусе матэр'ялізму, бо чалавецтва зыйшло з назначанага шляху на дарогу пагібелі!

І ці калі ў гісторыі Царква — аднолькава каталіцкая, як і праваслаўная ці пратэстанская — гаварыла так выразна, як сягодня, аб сваіх гістарычных памылках і грахох, як інквізыцыя, рэлігійныя войны, схізмы, патураньне сільным, замест абароны слабых і г. д.? Ці калікалечы людзкое сумленьне гэтак выразна усьведамляла сабе сваю адказнасьць за ўсе злачынствы, якія тварыліся ад пачатку хрысьціянства — аж дасюль? І ці ў якімколечы краі перш людзі перажывалі так востра ўчынкі і загады сваіх урадаў і верхаводаў, як цяпер?

Мы не гаворым тут аб тых краёх і ўладах, дзе грамадзкая думка, скаваная путамі жорсткай цэнзуры, ня можа свабодна праяўляцца... І ці бывала перш, каб найбольшае зло — в а й н а — была так рашуча асуджана, як апошняя сусьветная вайна? І ці дзеколечы супраць ураду, які вёў вайну, падыймалася такая адкрытая крытыка, як гэта было ў Францыі ў часе алжырскае вайны, або цяпер у Амэрыцы за вьетнамскую вайну?

Ці-ж усё гэта не паказвае, што з глыбіні чалавечых душаў уздымаецца нешта вялізарнае, а нават трэба сказаць — нешта сьвятое?! Бо людзям ужо сапраўды спрыкрылася сядзець, як кажуць, — стуліўшы вушы», у працягу тысячы гадоў у цемры ашуканства і баламутства... І ці не таму можа так многа людзей цяпер пратэстуе і падыймае голас, што вельмі доўга іх прымушалі маўчаць дый падтаківаць?...



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# РЭЦЭНЗІЯ

LIKE WATER, LIKE FIRE. An Anthology of Byelorussian poetry 1828 to the present day. Translated by Vera Rich. London, George Allen & Unwin, 1971. 347 p. Price £4.50.

Пра анталёгію беларускай паэзіі на ангельскай мове гаварылася ўжо даўно — так даўно, што некаторыя людзі страцілі надзею наогул пабачыць яе. Таму толькі-што выйшаўшая з друку кніга Like Water, Like Fire выклікае тым большую цікавасьць. Кніга, выданая з ініцыятывы ЮНЭСКО аднэй з найбольш паважных ангельскіх выдавецкіх фірмаў, робіць вонкава вельмі прыемнае ўражаньне. Зьмест яе таксама салідны: больш як дзвесьце твораў сарака беларускіх паэтаў пачынаючы ад Паўлюка Багрыма і канчаючы сучаснымі маладымі паэтамі, як Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч і Янка Сіпакоў.

Кніга зьяўляецца вынікам шматгадовай працы ангельскай паэткі Веры Рыч, ведамай з перакладаў твораў украінскіх паэтаў Тараса Шаўчэнкі і Лесі Украінкі. Многія ейныя пераклады твораў беларускіх паэтаў друкаваліся ў сваім часе ў розных ангельскіх пэрыядычных выданьнях.

Як і трэба было спадзявацца, у кнізе ёсьць вельмі шмат добрага. Асабліва ўдалымі зьяўляюцца пераклады твораў Вагушэвіча, Багдановіча, Бядулі, а таксама раньніх твораў Купалы і Коласа. Перакладчыца здолела ня толькі перадаць дакладны зьмест твораў, але і захаваць іхнюю паэтычную форму. А гэта ўжо вялікае дасягненьне. Нямала ўдалых перакладаў і навейшых паэтаў. Вось, для прыкладу, выняткі з верша Ніла Гілевіча «Цуд тварыўся» (стар. 302) з паралельна паданым арыгінальным тэкстм:

A wonder came — I slept my fill:  
At dawn the snow fell thick and still,  
Early-early.

. . . . . . . . . . . .

Silent, in quietude apart,  
I stand, with lightness in my heart,  
Lightly-lightly . . .

Цуд тварыўся — я праспаў:  
Сьнег дасьвецьцем перапаў  
Рана-рана.

. . . . . . . . . .

Моўчкі я стаю ў цішы,  
І так лёгка на душы,  
Сьветла-сьветла . . .

Ня ўсе аднак пераклады ўтрыманыя на такім высокім узроўні. Многія з іх робяць уражаньне робленых насьпех і недаканчаных. Гэта асабліва відаць, калі параўнаць, скажам, пераклад разьдзелу «Раніца ў нядзельку» (стар. 69) з паэмы «Новая зямля» Якуба Коласа з разьдзелам «Сьмерць Міхала» (стар. 102) з той самай паэмы. Мала добрага можна сказаць і пра пераклад Коласавага верша «Вясна» (стар. 65):

O spring, O long —  
Awaited one!  
You will return,  
Come back again!

Вясна, вясна  
Жаданая!  
Ты прыйдзеш зноў,  
Ты вернешся!

Тут перакладчыца, каб захаваць разьмер, разьдзяліла складанае слова long-awaited. Нешта падобнае можна бачыць ў перакладзе верша Васіля Віткі «Дзіва» (стар. 214), дзе заканчэньне радка часьцінай the робіць верш штучным і цяжкім да ўспрыняцьця:

And the word quivers —  
Living  
Warm in the  
Throat of the songster  
A sweet-calling  
Drop, falling.

Трапечацца слова —  
Жывое,  
Цёплае  
У горле птушыным  
Гулкаю  
Кропляю.

Падобных прыкладаў можна знайсьці больш.

У першай кнізе, якая мае на мэце знаёміць англамоўных чытачоў са скарбамі беларускай паэзіі, хацелася-б бачыць толькі найлепшыя творы беларускіх паэтаў. Выглядае, аднак, што мастацкая якасьць не была заўсёды адзіным крытэрыем для адбору твораў у анталёгію. Таму туды трапілі такія мастацка слабыя вершы, як «Беларускім партызанам» Янкі Купалы (стар. 146), байка «Дзіця, вожык і зьмяя» Кандрата Крапівы (стар. 223), «Танцы ля ваенкамата» Генадзя Бураўкіна (стар. 274) і добры дзесятак іншых ім падобных. З другога боку многія ведамыя паэты і іхнія творы абмінуты маўчаньнем, сярод іх В. Дунін-Марцінкевіч, Алесь Гарун, Казімір



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Сваяк, Натальля Арсеньнева, Міхась Машара, Міхась Чарот, Паўлюк Трус і інш. Асабліва бедна выглядае ў анталёгіі беларуская паэзія XIX стагодзьдзя.

Многія паясьненьні перакладчыцы поўныя фактычных памылак і звычайна маюць мала — або зусім нічога — супольнага з вершамі, якія яны маняцца паясьняць. Найбольш непрыемная заўвага пра Францішка Скарыну (стар. 195), якога спадарышня Рыч няведама чаму зрабіла альхімікам, забыўшыся адначасова адзначыць, што ён быў перакладчыкам і друкаром Бібліі. Адносна-ж Каліноўскага, дык ягоная роля ў паўстаньні 1863—64 г. сёньня ўжо дастаткова добра вывучана беларускімі, польскімі і расейскімі вучонымі і таму няма патрэбы паклікацца на нейкі «фальклор» (стар. 198). Васіль Вашчыла (там-жа) быў кіраўніком сялянскага паўстаньня ў Крычаўскім павеце ў 1743—44 г. і ня меў нічога супольнага з былінамі. Няведама з якіх крыніц перакладчыца ўзяла вестку, быццам Гродна ў XIII стаг. называлася Gaudinas (sic!) і было сталіцай Вялікага Княства Літоўскага (стар. 199). Праўда, літоўцы называюць Гродна Gardinas (а на Gaudinas), але гэта яшчэ ня робіць яго літоўскім горадам, таксама як Лёндан не зьяўляецца францускім горадам толькі таму, што французы называюць яго Londres. Варта таксама зазначыць, што Дзяды на Беларусі сьвяткуюцца не на Куцьцю, як гэта кажа спадарышня Рыч (стар. 123), але ў канцы кастрычніка.

Вельмі непрыемнае ўражаньне робяць шматлікія памылкі ў напісаньні беларускіх слоў, прозьвішчаў і назваў гарадоў, напр. Kułašoŭ (трэба Kulašoŭ), Hłebka (Hlebka), Kirenka (Kirejenka), Heinadz (Hienadź), Novahrudek (Navahrudak), Mahileŭ (Mahiloŭ), konia (kania), vuhli (vuhły), byłyny (byliny). Падобных памылак налічваецца кала сотні.

Кнігі тыпу анталёгіі беларускай паэзіі на ангельскай мове не выдаюцца часта і таму трэба думаць, што цяперашняя анталёгія праз доўгія гады будзе адзіным аўтарытэтным выданьнем беларускай паэзіі ў англамоўным сьвеце. Шкода, што перакладчыца не скарыстала з вялікай, магчыма непаўторнай, нагоды зрабіць анталёгію выдатным творам.

*А. Надсон*

---

## *З царкоўнага жыцьця*

**ВАТЫКАН:** На пачатку чэрвеня г. г. быў выбраны Маскоўскі Патрыярх ПІМЭН... На ягоным пастаўленьні былі таксама прадстаўнікі ад Папы Паўла VI-га. І з гэтае нагоды Папа выслаў Патрыярху прывітальную тэлеграму, у якой чытаем:

— З радасьцю заручаем Вашую Сьвятасьць аб нашых малітвах За Вас у часе, калі Вы былі пакліканы на пасад Маскоўскага Патрыярха. Выражаючы Вам нашыя павіншаваньні, вельмі хочам Вас запэўніць, што Вы знайдзеце ў ва мне брата, ахвотнага да супрацы у ва ўсім, што можа пасунуць далей справу адзінства між Каталіцкай і Праваслаўнай Царквою і ўсімі хрысьціянамі.

З глыбокай любоўю ў Госпадзе

Павел Папа VI

*

**ЛЕТУВА:** Вясною гасьцілі ў Рыме і былі ў Папы тры летувіскія біскупы — першы раз у такім ліку пасьля вайны; а чацьвёрты ня прыехаў з прычыны хваробы. Летува мае шмат труднасьцяў пры камуністычным рэжыме і стараецца неяк перетрываць цяжкія часы і палажэньне. Але мы можам толькі шкадаваць, што Беларусь не мае аніводнага біскупа, ні духоўнае сэмінарыі! Чаму гэта?...

*

**НОВАЯ БІБЛІЙНАЯ КАМІСІЯ.** Заснаваная ў Рыме Новая Бібл. Камісія і пашыраныя ейныя кампэтэнцыі. Будуць у яе запрошаныя да супрацы і вучоныя іншых веравызнаньняў, асабліва праваслаўныя і пратэстанты. Гэта прычыніцца да паглыбленьня экумэнізму.

*

**ПАСЛАНЬНЕ ПАЎЛА VI-га ДА ЗАКОНАЎ.** Гэтае пасланьне адносіцца да ўсіх законаў — як разважаючых, так і дзейных. Прыпамінае яно аб вялікіх вартасьцях законнага жыцьця для Царквы і для сьвету. І сучасны сьвет надта патрабуе прыкладу хрысьціянскага жыцьця, а гэты прыклад даюць законы праз свае ахвярныя шлюбы — чыстасьці, удобства і паслухмянасьці каб дасканалей сьледаваць за Хрыстом. І Папа заклікае законнікаў, каб дасканалей выконвалі прынятыя забавязаньні — з любоўю да Бога і людзей!

*

**НОВАЯ ЭКУМЭНІЧНАЯ ЎСТАНОВА.** У заходнім Бэрліне заснаваная Канфэрэнцыя, як сталая установа, да якой належаць хрысьціяне, жыды і магомэтане. Гэта сталася ў выніку некалькіх сустрэчаў. З хрысьціян уваходзяць ка-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

талікі і прадстаўнікі галоўных пратэстанскіх цэркваў. Мэта арганізацыі: пазнаваць адны другіх, узаемнае зьбліжэньне ў духу талеранцыі, і каб наладзіць лепшае сужыцьцё ў мяшаных сужэнствах. І якраз цяпер людзі часьцей мяшаюцца — розныя народы і рэлігіі — дзеля турызму і як работнікі, асабліва ў Нямеччыне.

*

**ЗАКЛІК ДА ВЕРЫ.** З нагоды гадавіны — 8 гадоў пасьля выбару — Папа ў прамовах напамінае вернікам, каб разважней адносіліся да праўдаў веры. Сучасны чалавек стаў больш крытычным у справах рэлігіі — хацеў-бы усё сам спраўдзіць і праверыць. Тымчасам у хрысьціянстве ёсьць артыкулы-дагматы, якіх чалавечы розум ня можа паглыбіць так, як тэорыі ў матэматыцы, напр., навука аб Сьвятой Тройцы, аб Сьвятой Эўхарыстыі і інш. У такія праўды мы верым — не дзеля таго, што мы їх поўнасьцю пазналі і зразумелі, але таму, што іх аб'явіў Бог і даў нам дастатковыя доказы, што яны прыходзяць ад Бога. Як сам Хрыстос сказаў: «Багаслаўлёныя тыя, што ня відзелі, а паверылі» (Ян 20, 29). — А цяперашні сьвет перажывае вялікае хістаньне і буры: Хрыстовая Царква, як пятровая лодка, няраз бывае ў страшэнных небасьпеках, хоць Хрыстос запэўніў, што «пякельныя брамы не перамогуць яе (Мат. 16, 18). Сам Папа мае абавязак падтрымліваць веру ў народзе; але Папа, як чалавек, сам слабы і грэшны, дык трэба, каб вернікі маліліся за яго ў ягоных цяжкасьцях і абавязках.

*

**ПРАМОВА ПАПЫ ДА КАРДЫНАЛАЎ.** З нагоды сваіх імянінаў 24 чэрвеня Папа Павал VI-ты выказаў свае клопаты і труднасьці. Адносна сваей Курыі казаў, што цяпер, калі ўвайшло больш прадстаўнікоў ад усяго сьвету, Рымская Курыя сталася актыўнай і здольнай лепш выконваць свае задачы. Курыя бліжэй пазнае адносіны нават з найдалейшых частак хрысьціянскага сьвету і сувязь з Галавою Каталіцкае Царквы сталася жывейшая і глыбейшая.

Але між багасловамі і сьвецкай інтэлігенцыяй заўважаецца імкненьне дастасаваць Царкву да сучаснага сьвету. Праўда, Царква многа карыстае з сучаснае культуры з навукі і тэхнікі, але існуе небасьпека, каб лішне ня выстаўляцца на шкоду і страту праўды дый іншых вартасьцяў духовых, бо Хрыстос не жадае, каб сьвет зьмяняў Царкву на свой вобраз і падабенства, але каб Царква зьмяняла і асьвячала сьвет на падабенства Божае. І прытым Папа высказаў жаль, што апошнім часам некаторыя адзінкі, нават з між сьвятарства і законнага стану пакінулі Царкву і нат адракліся веры ў Бога!

А гаварыў Папа аб сучасных войнах, аб крызысе ў Пакістане дый аб горадзе Ерусаліме, што гэты сьвяты для хрысьціян, жыдоў і магамэтанаў горад павінен мець свой статус і быць пад міжнароднай управай.

---

## З нашае мінуўшчыны

# Наш тэатр

**(Разважаньні Максіма Гарэцкага)**

Беларус любіць жывы прыклад: сам у гаворцы сваёй заўсёды пачне прыводзіць жывы прыклад. А лепшы «гаварун» беларус «прыстаўляіць» тое, аб чым гаворыць: ён і голас падвядзець і рукамі і нагамі языку паможыць. Нахіл к прыстаўленьню хаваіцца ў беларуса ў яго душы і выяўляіцца ім у жыцьці на кожным сігу. І ці маюць ешчэ хоць адзін народ на зямле столькі гульняў і жартаў, як беларусы?

Беларус па псіхіцы сваёй — дабрадушны гумарыст, і ён любіць заўсёды паслухаць, паглядзець і людзём паказаць усё троху-многа прыметнае ў жыцьці, а паказываіць ён ізноўткі жывым прыкладам.

Заўважым, што і музыка ў вялікай пашані ў беларусаў.

Тэатр беларускі, народны тэатр у беларускім адраджэньню — надта важная справа.

Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцьця, — і Божа мілы! — гэты гаротнік беларус, пераканаўшыся, ужо знайдзе здольнасьць парваць ланцугі рабства, патрапе крыкнуць: «Жыве Беларусь!» так дужа, што аж векавые муры няволі, як тые сьцены ерыхонскіе, пасыплюцца ў прах. А ў такім разі доўг нашых пісьменьнікаў, каторы яны павінны сплачываць, гэта — ў драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і гдзе ляжыць яму дарога на поле, шырокае-далёкае, роднае поле вольнага жыцьця.

Беларус умеіць працаваць, ці не яго мазалістымі рукамі праведзены бадай усе чыгункі у



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Расеі? Толькі беларусу дагэтуль не давалі карыстаць са сваей працы, і ён ужо забыўся, як можна добра скарыстаць.

Трэба паказаць беларусу са сцэны, што так жыць, як ён жывець, ня можна..., паказаць... што ён — чалавек, і што павінен дзетак сваіх гадаваць з сумленьнем...

І трэба ешчэ сказаць беларусу са сцэны, што калі ён праваслаўны, то ніхай ні лаіць свайго брата каталіка беларуса «паляком», а калі ён каталік, дык ніхай лічыць сябе беларусам, а беларуса-праваслаўнага сваім братам, і абодвы беларусы, каталік і праваслаўны, ніхай шануюць веру і добры сьветапогляд адзін другога і веру ўсякага сумленага чалавека, ўсякай нацыі...

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён маіць слаўнае прошлае, што яго дзедоўшчына нараўні с крапчэйшымі старонкамі пад сонцам была...

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што за чалавек той, каторы сьпіць без канца-краю, якой вартасьці такі чалавек і хто жджэць яго у будучыні... паказаць, у які бок кіравацца яму, па якому «шляху жыцьця» пайсьці і якім чынам сілы фізычнай і духоўнай набрацца...

І трэба крыкнуць беларусу са сцэны, каб ён гарэлкай не заліваўся: трэба сказаць яму і многа-многа чаго другога...

Патрэбна паказаць з беларускай сцэны другім народам, што за народ такі ёсьць беларусы, што маюць яны ня толькі «очень сьмешные анекдоты и весьма странныя суеверия» а нешта лепшае ад жарту і ад забабонаў, нешта гэткае, прад чым прыемна атчыніцца агульна-людзкая скарбніца векавечных забыткаў культуры і цывілізацыі, а ня то што...

Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашага Адраджэньня. Тэатр гадуіць маладых байцоў за праўду і даець грамадзкую мошч людзём у парэ, але занепаўшым, ён абгладжываіць на добры лад характары людзей і народаў.

Вот мы цяпер, калі адрадзіліся, і павінны будаваць свой тэатр па чэлавецку, добра, каб ён быў храмам, а ня бруднай стайней Аўгія і не кутом дурнога скалазубства.

Бо ведама ўсім, якое вялікае значэньня маіць тэатр у жыцьці і што чалавеку, апрача паўміскі юшкі патрэбна і страва для душы. Кірунак нашага маладога тэатру павінен быць жыцьцёвамастацкі с дэвізам: «Падняць беларуса да ідэальнага чэлавека!»

*

Мы забылі сваю мову: старадаўная сіла, арыгінальнасьць яе і гладкая, гучная форма у доугія часы патроху псувалася. Шмат гдзе цяпер беларусы гаворуць прыкрай мешанкай слоў беларуска-польска-рускіх.

Тэатр наш повінен ачысьціць, абяліць мову і паказаць прад вочы людзей гучнасьць і гібкасьць.

Пісьменнік наш, пішучы драматычны твор, маіць доўг прад Беларусьсю абгледзіць, як дарагі камень, кождае слоўца, зважыць, абсмакуваць і уцяміць сілу яго. Ён павінен дбаць аб прыгажосьці мовы не прыдуманнай, а праўдзівай, бо прыдуманнае-неўдалае у мові дужа прыкра...

Пільменнікі беларускіе!.. тые, што жывіцё на захадзі Беларусі, даведайцеся, як говораць на яе усходзі, а усходніе пабывайця на захадзі. Як кругаварот крыві у целі чэлавецкім даець здароўе арганізму, так гэты пераліў нашых сіл на Беларусі і зробіць яго дужэйшым.

А вы, жрэцы у Храмі Нашаго Адраджэньня, каторые ужо ёсьць і каторых ешчэ народзіць Бог, вы, лепшые пчолкі з рою млада-беларусаў, мастакі і штукаркі тэатру беларускага, вы асобенна вучыцеся мовы і дбайця аб яе сіле і прыгажосьці.

Вы, настаўнікі красамоўства і прыгожай гаворкі, тое што вы скажаце добра са сцэны з вялікаю сілаю укладзецца у душу беларускую.

*

Трэба, каб са сцэны беларускага тэатру палілася беларуская песьня, каб ад яе павеіло на людзей араматным пахам беларускай народнай паэзіі, каб пачулася у ёй турлычлівая песьня жаўронaчка пад вясеннім небам над зялёнай руньню, каб у ёй пачуўся і далёкі спакойна-тужлівы гук бяроставай трубы хлопчыка, што кароў пасець каля рэчкі, і шум бязконцы лясоў непраходных і «шэпты сьпелых каласоў» і звон серпа і «ўжык ды ўжык» касца у дуброві, каб чэлавек пазнаў у ёй красу беларускіх палёў з горкамі калатоўкамі ды курганкамі старасьвецкімі, лажчынкамі, мурожкамі, сенажаткамі, гайкамі, каб у ёй заблішчэла серабром ціхая рэчка, у каторую ціхамірна глядзіцца старая верба, а хлопчык сядзіць на беразі і у дудачку іграіць...

І мы павінны самі смакуваць і людзей частуваць сваей народнай песьняй... Працуйце пяром так, каб творы вашы красаваліся на пачэсным месьці у багатай кватэры інтэлігента-беларуса і знахадзілі б шчырае спатканьне пад самай беднаю стрэшкаю маламожнага селяніна. А найскарэй давайце страву тым, што прашнуліся і тым, што устаюць ешчэ, — яны пойдуць на работу.

Гадуйце нашу надзею — дзетак нашых. Шукайце брату свайму дарогу да праўды. І памятайце: ня будзеце шукаць... Бог вас пакараіць.

---

Зьмешчаныя тут выняткі з артыкулу Максіма Гарэцкага п. наз. «Наш тэатр», надрукаванага у выданьні «Калядная Пісанка» з 1913 году. Вільня 1913, бачына 13—20. Поўнасьцю захоўваем уласьцівасьці мовы М. Гарэцкага.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## ДАВЕДКА ПРА МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

Максім Гарэцкі нарадзіўся 18 лютага 1893 г. у вёсцы Малая Багацькаўка у паўночным кутку Мсьціслаўшчыны. Сяньня Багацькаўка знаходзіцца ў Мсьціслаўкім раёне Магілёўскае вобласьці.

Пачаткі школьнае адукацыі Максім атрымаў у роднай вёсцы, пасьля ў вёсцы Вольшы, дзе была прыхадзкая настаўніцкая школа. У 1908 г. ён скончыў гэтую школу і меў права сам стаць настаўнікам. Але ён, маючы 15 год пайшоў вучыцца далей у каморніцка-агранамічную школу ў Горках. Тут займаўся 4 гады. У 1912 г. друкуецца ў «Нашай Ніве» першы невялікі твор Гарэцкага. А ў 1914 г. выхдзіць яго першая кніжка «Рунь» у Вільні. Пасьля ў 1919 выходзяць кніжкі: «Антон», «Дзьве Душы» і інш.

Па сканчэнні школы ў Горках працуе на Віленшчыне каморнікам на працягу аднаго году. А ў 1914 г. мусіць ісьці на ваенную службу. На фронце падчас вайны быў цяжка ранены ў ва Усходняй Прусіі. Адсылаюць яго ў віленскі шпіталь «Мішмэрэс Хойлем», дзе працавала беларуская паэтка «Цётка» міласэрднай сястрою. Яна рэгулярна прыносіла Гарэцкаму «Нашу Ніву». Яшчэ недалечаны едзе ў Багацькаўку да бацькоў.

Пачынаецца працяжная валакіта пісьменніка. Працуе ў Маскве чарцёжнікам дый у Петраградзе канчае ваеннае вучылішча, а стуль накіравалі яго ў Сібір, як ваенна-служачага, а пасьля зноў на фронт у Піншчыну. У 1918 Гарэцкі — ў Смаленску і тут выдаюць з братам руска-беларускі слоўнік. — (Паўторнае выданьне вышла ў Вільні ў 1921). Ад 1919 прабывае ў Вільні. Быў настаўнікам у беларускай гімназіі ў Вільні, выкладаў беларускую мову ў праваслаўнай духоўнай сэмінарыі, рэдагаваў газэты: «Беларускія Ведамасьці», «Наша Будучыня», «Наша Думка». І ў Вільні ў 1920—21 гадах выходзіць яго «Гісторыя беларускай літаратуры» двума выданьнямі. А ў 1922 тамжа «Хрэстаматыя беларускай літаратуры XI стаг. — 1905 год.»

Праз два тыдні арыштаванага пісьменьніка Гарэцкага палякі трымаюць у вязьніцы Вільня-Лукішкі.

У 1923 Гарэцкі пераехаў у БССР. Там ён чытаў лекцыі ў рабфаку Беларускага унівэрсытэту, выкладаў беларускую мову і літаратуру ў сельска-гаспадарскай акадэміі ў Горках, працаваў у Інстытуце беларускае культуры, а пасьля ў Акадэміі Навук.

У 1928 выдаў зборнік: «Народныя песьні і мэлёдыі», падрыхтаваны М. Гарэцкім і А. Ягоравым. У ім зьмешчана 318 песьняў запісаных Максімам ад ягонай маці.

У 30-х гадах жорсткага прасьледу на Беларусі М. Гарэцкага абвінавацілі ілжыва і несправядліва, саслалі ў Вятку і ў пасёлак Песочно Калужскае вобласьці, а ў 1937 у Комі АССР. Перамучаны працай і цяжкімі абставінамі памёр заўчасна, маючы 46 гадоў, 20-га сакавіка 1939 г.

У 1968 г. вышла ў Менску кніжка Дзьмітра Бугаёва: «Максім Гарэцкі». На пачатку яе чытаем: «Арыгінальны пісьменнік і таленавіты вучоны — дасьледчык літаратуры фальклярыст, мовазнаўца — Максім Гарэцкі на працягу ўсяго свайго вельмі нялёгкага жыцьця з выключнай самаадданнацьцю і сама-ахвярнасьцю працаваў на ніве беларускай культуры, аддаючы ёй усяго сябе без астатку . . .»

Каб не савецкая драконская сыстэма нішчэньня народных пракокаў, Гарэцкі яшчэ і сяньня мог-бы жыць і тварыць. Яму было-б 78 гадоў... Аднак і тое, што ён пакінуў па сабе, ёсьць вялікім няуміручым укладам у беларускую культуру.

У наступным нумары «Б. Шл.» надамо некаторыя выняткі з ягонай повесьці «Дзве Душы», якая паслужыла вялікім абвінавачаньнем у вачах камуны.

## *З найдаўнейшае мінуўшчыны*

Можа не адзін з нас не ўяўляе, як даўно жылі людзі на нашых землях і па якіх скарбах культуры яны хадзілі? Дык вось цяпер архэалягічныя раскопкі кідаюць нямала сьвятла на гэтую праблему. Нядаўна пра гэта пісаў квартальнік «Помнікі Гісторыі і Культуры Беларусі», № 3, 1970 г., выданы ў Менску.

Аказываецца, што існуюць сьляды чалавечага жыцьця на нашай зямлі аж з часу 100 тысяч гадоў таму назад! Дарэчы трэ адзначыць, што накаторыя вучоныя дапушчаюць існаваньне чалавека на зямлі мільён гадоў таму, хоць няма на гэта досыць доказаў. Аднак пэўна, што чалавек ужо быў у Эўропе, Афрыцы і Азіі 600 тысяч гадоў таму; а пра гэта сьведчыць ягоная культурная творчасьць і астаткі людзкіх касьцей. Дый у Палестыне напаткалі такое мноства касьцей, што некаторыя вучоныя ўважаюць, што тут трэба шукаць пачатку людзкога роду.

### Якія-ж памяткі пакінулі першыя людзі на Беларусі?

У старой каменнай эры, званай палеалітам, якая цягнулася ад 100 тысяч гадоў, ужо спатыкаем прылады працы з каменя і людзкія паселішчы, так званыя «стаянкі». Адну з іх адкрылі пад грубым пластом зямлі ў Абідовічах, быхаўскага раёну.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

У пэрыядзе 25 тысяч гадоў да нашай эры, (пазьнэйшы палеаліт), маем больш такіх стаянак-паселішчаў. Знайшлі іх і ў Юравічах каленкавіцкага раёну і ў Бэрдышах цяцерскага раёну, — на 3—7 м глыбіні пад паверхняй зямлі. Разам з такімі прыладамі да працы сустракаюцца косьці вялізарных жывёлін-мамантаў і астаткі расьліннасьці таго пэрыяду. Гэта ёсьць доказ, што на нашых землях існавалі людзі ў пару яшчэ перад апошнім абледзяненьнем, якое захапіла паўночную частку Беларусі і трывала ад 40 да 15 тысяч гадоў перад нашай эрай.

З мазаліту, г. зн., сярэдняй каменнай эры, 4.000—2.000 гадоў перад нашай эрай, маем яшчэ больш такіх паселішч-стаянак. Ранейшыя зьмяшчаюцца на высокіх берагох рэк, а пазьнейшыя — на нізкіх. У паселішчах знаходзілі мноства прыладаў да працы з крэменя, якога на Беларусі спатыкаецца многа і які добра надаецца да апрацоўкі. З прыладамі сустракаецца і начыньне з гліны, аздобленае кропачкамі або іншай простай арнаментацыяй.

У пэрыядзе бронзы (2.000—400 г. перад нашай эрай), стаянкі зьяўляюцца з магільнікамі, якія маюць форму курганоў. Апрача прадметаў з крэменя зьяўляюцца таксама прылады з бронзы.

Жалезную эру (VI стаг. перад нашай эрай і посьле) рэпрэзэнтуюць шматлікія гарадзішчы, г. зн., стаянкі, абгароджаныя каменным мурам. Таксама зьяўляецца шмат курганоў, якіх ужо адкрылі больш 10 тысяч! Тут прылады да працы, як і іншыя прадметы штодзённага ўжытку пераважна зроблены з жалеза, чым тлумачыцца і назва гэтае эры. Яна зьяўляецца самай багатай эрай з усіх папярэдніх — гэта помнікі жыцьця чалавека і ягонае культуры. Уся Беларусь багата імі абсеяна. Разам з прадметамі мясцовага вырабу сустракаем рэчы, як манэты, біжутэрыя і інш. з Рымскай ці Бізантыцкай імпэрыі. У магілёўскай вобласьці знайшлі 1815 рымскіх манэтаў.

Гэтая эра гранічыцць ужо з гістарычнай эрай Беларусі. Некаторыя гарадзішчы разрастаюцца ўжо ў гэтым часе ў гарады, пра якія ужо знаходзім весткі ў летапісах або ў іншых гістарычных дакумантах. Такімі гарадамі, якія ўзьніклі з гарадзішчаў, зьяўляюцца: Полацак — 862 г., Менск — 1060 г., Горадня, Слуцк, Тураў і іншыя, а ўсіх лічыцца 30 гарадоў.

Стаянкі-паселішчы, пра якія была мова вышэй, сустракаюцца разнаякага тыпу: каменныя, паўззямлянкі і тарфяныя. Апошнія пераважна на Палессі і Віцебшчыне. Іх будавалі на высокіх або і на нізкіх берагох рэк — Дняпра, Сожу, Нёману. У некаторых месцах вада вымывае і цяпер яшчэ даўнейшыя стаянкі. А тарфяныя знаходзяць, капаючы торф.

На Беларусі знаходзіцца многа крэменя, прыдатнага да вырабу прыладаў да працы: дастаюць яго із слаёў вапны. І ўжо ў пару нэаліту (25.000 да 9.000 таму) існавалі на нашых землях шахты, у якіх выкопвалі крэмень. Такую шахту адкрылі ў Ваўкавыскім раёне, нідзе ў Савецкім Саюзе больш гэтае зьявы ня было, таму ў тым месцы маюць пабудаваць спэцыяльны музэй.

Адкрытых стаянак ёсьць некалькі сотак, а гарадзішчаў — блізка тысяча. Апошнія займаюць шлошчу 0,2—0,3 га. А часам да 2 гэктараў, калі яны месьцяцца сярод балотаў.

Цікава было-б ведаць, якія гэта людзі жылі на Беларусі ў такой далёкай мінуўшчыне? — Да канца жалезнай эры навука ня можа сказаць нічога канкрэтнага пра этнічнае паходжаньне жыхароў гэтае эры. Адрозьніваюць іх толькі па адменнасьці іхняе культуры. І так адных з іх лучаць з культурай «быхаўскай», а другіх — з «петракоўскай» або «банчароўскай». Калі ідзе справа пра апошнюю культуру, дарэчы будзе сказаць, што ў барыссаўскім раёне, у Дзядзілавічах адкрылі яе вялікі сьлед, менавіта, адкапалі там 300 паўземлянак, што выводзяцца з першае палавіны тысячагодзьдзя нашае эры.

Сярод архэалёгаў існуе агульнае пераканань-не, што ўжо ў другой палавіне нашае эры на нашай зямлі жылі славянскія плямёны.

Як бачым, чалавечае жыцьцё на Беларусі і карэньні яе культуры сягаюць вельмі старой мінуўшчыны, якую вымяраюць тысячамі і дзесяткамі тысяч гадоў перед намі!...

Ф. Ж.

# Успаміны аб сьв. пам. інж. Адольфе Клімовічу

Маё першае спатканьне з Ад. Клімовічам здарылася ў нашых Дэлятычах у 1932.

У нядзельку пасьля Божае службы наш псаломшчык Якуб Семашка, шапнуў мне на вуха: «Зайдзі ка мне ў хату: маем неабыякага гасьця!»

Уваходжу і пабачыў чалавека сярэдніх гадоў, вышсярэдняга росту, з прыемным выглядам твару, у нацыянальнай вышытай кашулі, падпяразаны прыгожым поясам...

А сп. Семашка і кажа: «Знаёмцеся! Спадар Клімовіч. — А гэты — ён паказаў на мяне — наш лідар тутэйшае моладзі і ён саматужны дзеяч гуртка самадзейнасьці, Чабатар!» —

Мы моцна і дружна пацiснулі рукі. Быў я значна збянтажаны, што я — такі яшчэ недарослы юнец, а маю гонар вітацца з такім заслужаным і высока-адукаваным грамадзкім дзеячом!

І вось паставілі на стол сьпяваючы самавар. Пры шклянцы гарбаты даведаўся я што сп. Клі-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

мовіч ачольвае ў Вільні Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, і ён таксама — рэдактар селянскага месячніка «Самапомач», які ў нас шмат хто выпісываў. А прытым сп. Клімовіч мае намер залажыць у Дэлятычах гурток гэтага Інстытуту і даручае мне склікаць моладзь, каб пагаманіць і вырашыць належнае ў гэтай справе.

Я-ж паведаміў таго-сяго і мы дружна ўзяліся за наш актыў дый хутка каля соткі маладзікоў і дзяўчатак сабраліся ў доме Семашкі. Аднак трэ было дзеяць аглядна, каб ня зьмеркаваў сусед-даглядчык, — настаўнік у школе, — паручык у рэзэрве, — паляк і даносчык, які пільна сачыў за намі і падстаўляў нагу, дзе толькі могучы. Ну, мне кажны год выпадала два дні перад 1-ым і два па першым маем сядзець за кратамі, дык я-ж быў вельмі асьцярожны, каб благое вока не бачыла і не памяшала зборцы, дык моладзь адзіночкамі, украдкам гародамі шмыгала ў хату.

Зыйшліся: Інж. Клімовіч падрабязна выясьніў ідэю Інстытуту Гасп. і Культуры: гаварыў вельмі сьмела і захапляюча, а мы лавілі кажнае слова Пасьля пасыпаліся пытаньні і лектар даваў адказы коратка, а так ясна і дакладна, што ўсе асталіся здаволены. І мяне асабліва зьдзівіла чыстая беларуская гутарка выдатнага дзеяча з Вільні. Хоць мы ўсе наагул знаді свою мову, але ў яе закрадаліся расейскія словы, насеяныя тут праваслаўнымі сьвятарамі, што гаманілі толькі «по рускі»: яны ў нас часта мяняліся і хоць паходзілі з нашага народу, але брыдзіліся роднай мовы..

У той самы вечар у нас паўстаў аддзел-гурток гэтага Інстытуту. А мяне аднагалосна выбралі старшынёю, а маю цяперашнюю (прыгожую) жонку — заступнікам: такімі мы з ёй асталіся і дасюль, бо ніхто нашага гуртка не разьвязываў дый перавыбараў ня было!

І ў тую-ж ноч выехаў з Дэлятыч наш дарагі госьць, інж. Ад. К. Відаць, ён баяўся аставацца з намі даўжэй, бо і за ім сачыла варожае вока ў Вільні і ў правінцыі.

У хуткім часе я атрымаў ад сп. Клімовіча сяброўскія легітымацыі і патрэбныя штампы, статут і пасьведку, што наш гурток легалізаваны польскімі ўладамі.

Гэта нам было неабходна, каб атрымаць ад наваградзкага старасты дазвол на настаноўку беларускіх п'есаў. Дык вось наш гурток паехаў усей парай: мы нанава стаўлялі ведамыя п'есы, карыстаючы з аказіі, калі прыпадалі вялікія царкоўныя сьвяткі на Юр'я і на Ўзвіжэньне Сьвятога Крыжа, на якія зьбіраліся людзі і з далейшых ваколіцаў: гэтак пашыралася нацыянальная сьведамасьць і ўзрастаў патрыятызм, і ў нас, і ў Вераскаве і ў Любчы дый іншых...

Сапраўды мы палюбілі, як роднага, сп. Клімовіча і ён нас таксама: аб гэтым сьведчыць тое, што кажны год наведваў Дэлятычы і ў дружных, цёплых днях і абставінах праводзіў з намі сьвяткаваньне «купальскае ночы» 24-га чэрвеня. І сам гаварыў нам: «Такое чароўнае мясьціны, як Дэлятычы, я яшчэ нідзе не спатыкаў!»

Бачу я ў сьне, як на яве: на левым беразе Нёмана, на ўзгорку, разляглося нашае мястэчка Дэлятычы. На правым — у паўкілямэтра ад мястэчка, дзе Нёман крута павертае з паўночнага напрамку на захад, на сенажаці, над самай ракою, быў пералесак-гай вылучна дубовы, чысты і без ніякага падсаду, як парк: звалі яго «Дубнікі».

Кажны год наш кружок у Купальскую ноч ставіў на фоне прыроды цудоўныя п'есы Янкі Купалы, а найпрыгажэй граў сваю ролю адзін сьпявак-барытон: калі-ж ён сьпяваў ведамую песьню «Жыў на сьвеце Лявон», дык усе былі захоплены, а рэха зычна абівалася ў гэтым лесе над рэчкамі!...

Цяжка было разьвітвацца з дарагім госьцям, але ён упэўніваў нас: «Бог дасьць на наступны папас за год зноў прыеду: цяжка мне вас пакідаць, але абавязкі клічуць у Вільню!...»

І прыяжджаў! Апошні такі папас адбыўся ў злапамятным 1939, у якім адзіна-кроўныя «браты» працягнулі нам «руку помачы». А далейшы працяг жыцьця інж. Клімовіча мне быў няведамы. Аднак Бог пазволіў яшчэ разок убачыцца: гэта было ў гор. Лідзе, дзе ў 1943 Клімовіч быў бурмістрам. Пазнаў мяне здалёку, прывіталіся і пагутарылі:

— Ці вашыя паперы і акты не папалі ў дрэнныя рукі?

— Не, кажу, не папалі: Як я даведаўся, што цёмная хмара ідзе з усходу, дык я ўсе паперы спаліў, а штампы закапаў у добрым месцы, — можа яшчэ спатрэбяцца?

— Дзякую, добра зроблена: можа яшчэ згодзяцца на што?...

Тады ён адхіліў палу і паказаў мне свой пояс, кажа: «Гэта-ж твая заступніца мне падаравала, — так прыгожа яна выткала!»

А я кажу: — А яна-ж — мая жонка! —

— Та-ак?, падзівіўся ён, — Ну, і дай, Божа вам шчасьце! Так і трэба, каб ідэйнасьведамыя людзі жаніліся з сабою, — тады й будзе аставацца ад іх сьведамае пакаленьне. —

І разьвіталіся мы, жадаючы ўзаемнае памыснасьці: і разыйшліся на векі-вечныя!

О, так! каб такія працаўнікі, адданыя нашай справе, адраджэнню Бацькаўшчыны, як народная мудрасьць кажа» «Рэдка сеяліся, але густа усходзілі», дык і масы народу пайшлі-б за імі!..

Дык няхай-жа Табе, дарагі мой друг, праваднік і супрацоўнік, Адольф Клімовіч, родная зямелька будзе пухам! Спаткаемся мы з Табой там — Бог пазволіць, дзе ўжо ня трэбе будзе хавацца ні ад усходніх, ні ад заходніх наглядчыкаў.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## Пішуць да нас

Гультайства да пісаньня лістоў — гэта аўстралійская хвароба, якой і мы, эмігранты, хварэем.

Зусім зразумела, што Вашыя апошнія дзьве кніжкі, «Успаміны, Кітай-Сібір-Масква» і «Князь і Лапаць» я маю. Таксама меў калісьці на Бацькаўшчыне ўсе Вашыя перадваенныя кніжкі. Пішаце пра Вашую апошнюю працу «Байкі», працу, якую не маецца магчымасьці выдаць, а гэта з нястачы грошаў. Я ўважаю, што яе трэба абавязкова выдаць. Але, скуль узяць грошы, вось пытаньне? Мне здаецца, што трэба адклікацца да грамадзтва. Праўда, мы тут у Мэльбурне ўсе, а нас ня шмат, абцяжаны рознымі зборкамі, ахвярамі, дарамі, падпіскамі. А нас тут такіх, што даюць, на пальцах можна палічыць. Я-ж чуў ад праф. Н., што Вы маеца прыехаць у Аўстралію. Вас, дарагі Айцец, усюды людзі прымуць ахвотна. Гасьціннасьць мэльбурскіх беларусаў, (але не ахвярнасьць), сапраўды беларуская! Вось-жа пры гэтай нагодзе (Вашае візыты) можна будзе папрабаваць узьдзейнічаць, каб ахвяравалі штосьці і тыя, якія звычайна не даюць нічога, а гэтых ёсьць вельмі нямала.

Мы, беларускі актыў, зразумела, дамо Вам, дарагі Айцец усялякую дапамогу. Думаю, што гэтае самае зробіць Сыднэй, Пэрт і Адэляйда.

Я часта прачытваю Ваш ліст, а мне здаецца, што выдаць Вашыя «Байкі», у вартасьці якіх я ня сумняваюся — гэта наш сьвяты абавязак; а Вашае падарожжа навакол сьвету, (трымайцеся здалёк ад «Кітаю-Сібіру-Масквы» з іхнімі сатэлітамі!) — гэта нагода, каб здабыць сродкі... Дык з Богам у дарогу!

А тымчасам жадаю Вам усяго найлепшага.

*А. Н.*

## З беларускага жыцьця

**25-ты Агульны Гадавы Зьезд ЗБВБ**

Дня 17 ліпня 1971 г. ў залі Беларускага Дому, 52 Пэнн Роад, N. 7, у Лёндане, адбыўся 25 Агульны Зьезд сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Старшынёй Зьезду быў сп. Кажаневіч з Манчэстэру, а сакратарамі сп. М. Баяроўскі (Бірмінгам) і сп. Я. Сяўковіч (Лёндан).

Гэты юбілейны Зьезд атрымаў прывітаньне ад розных арганізацыяў і асобаў. З вялікай увагай прысутныя праслухалі прывітаньні ад др. В. Жук-Грышкевіча, які зьяўляецца закладчыкам і першым Старшынёй ЗБВБ; ад Віктара Сенкевіча, першага сакратара; ад сп. Нікана з Аўстраліі, былага Старшыні Галоўнае Управы і ад іншых.

З прысутных віталі Зьезд Біскуп Ч. Сіповіч, Апост. Візытатар Беларусаў і сп. Я. Міхалюк.

Біскуп Сіповіч, які зьяўляецца цяпер ганаровым сябрам ЗБВБ, падаў «мэтрыку» паўстаньня і разьвіцьця першай пасьля вайны беларускай арганізацыі ў вольным сьвеце. Успомніў такжа аб яе сяброх, якія цяпер займаюць адказныя становішчы ў беларускім рэлігійным і грамадзкім жыцьці.

І так закладчык і першы Старшыня Галоўнай Управы ЗБВБ сяньня ёсьць Старшынёй Рады БНР, сябрамі былі тры беларускія Біскупы (2 праваслаўныя і 1 каталіцкі), такжа некалькі сьвятароў былі і ёсьць дзейнымі сябрамі Згуртаваньня.

Са справаздачы уступаючай Галоўнай Управы удзельнікі Зьезду даведаліся, што ЗБВБ сяньня мае тры ўласныя дамы, (Лёндан, Манчэстэр і Брадфорд) і нямала пералічваецца грошаў на Беларускую Харытатыўную Арганізацыю. Сябры бяруць удзел у дзейнасьці розных міжнародных арганізацыяў, перадусім у Ангельска-Беларускім Таварыстве. ЗБВБ дапамагае розным беларускім выдавецтвам і беларускім установам.

Аддзел у Манчэстэр сяньня стаіць добра зарганізаваны матар'яльна. Аддзел у Брадфорд шмат пасьвячае часу (апрача звычайных занятказаў у клюбе) на розныя патрыятычныя імпрэзы. Наш беларускі бел-чырвоны-белы сьцяг стала знаходзіцца ў гарадзкой зале і стала вывешваецца ў дзень 25 Сакавіка.

На Зьезьдзе была шырэй прадыскутавана справа балерускае моладзі. Усе прысутныя былі згодныя ў тым, што трэба зьвяртаць асаблівую ўвагу на нашую моладзь. Яна розная ад нас з сваімі вымогамі, чымся мы, «старое» пакаленьне; але яна павінна ведаць, хто былі іхныя бацькі і скуль паходзілі? Што мае рабіць і чым заняцца цяпер моладзь, калі не загіне ў чужым моры? Айцец Рабэрт Тамушанскі быў выбраны ў Галоўную Управу з мэтай, каб заапекаваўся беларускай моладзьдзю.

У новую Галоўную Управу былі выбраныя: Сп. Я. Міхалюк, Старшыня; сп. Т. Кажаневіч і А. Лашук — заступнікі Старшыні; сп. П. Навара,



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## ЗДЫМКІ АДЧЫНЕНЬНЯ БІБЛІЯТЭКІ І МУЗЭЮ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ









сакратар: сп. П. Асіповіч, скарбнік, і а. Р. Тамушанскі, сябра Управы.

Пастаноўлена адзначыць у восені гэтага году ў асаблівы спосаб 25-годзьдзе існаваньня ЗБВБ у Валікай Брытаніі. Апрача прыняцьця прадбачыцца выданьне апрацаванай гісторыі арганізацыі.

### «КАРАВАН» ТАРОНТО
### (24. VI. — 1. VII. 1971).

Пад высокім патранатам прэм ера міністраў Канады і бургомістра Торонто, ужо трэці раз быў зарганізаваны т. н. «Караван».

У інфармацыйнай брашуры сказана аб «Караване»: «Гэта фантастычны фэстываль!» І ў сапраўднасьці — гэта фэстываль танцаў, забаваў, народных страваў, — гэта кірмаш у беларускім, канадыйскім, італьянскім і інш. значэньні.

36 павілёнаў, называных імёнамі сталіцаў: Амстэрдам, Бэрлін, Блюэ Данюбэ — (Вена), Бомбай, Братыслава, Будапэшт . . . Менск.

Фактычна тыя павільёны зьяўляюцца ведамымі цэнтрамі розных нацыянальных арганізацыяў.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Арганізатарам «Менску» — Саюз Беларускай Моладзі Канады, Старшынёй якога ёсьць Паўлюк Пашкевіч, ён-жа адначасна і «бургомістр» Менску.

Беларуская Моладзь узяла на сябе цяжкое заданьне: яна выступіла побач вялікіх дый багатых арганізацыяў іншых народаў. Трэба было ў «Менску» прыняць гасьцей: кожнага дня (праз 8 дзён) іх зьўлялася па пару соцен! Ніколі ў беларускім цэнтры ня было так людна і весела. Адумысловыя аўтабусы развозілі наведывальнікаў з «пашпартамі» ад павільёну да павільёну. Беларускі цэнтр быў адрамантаваны. Над уваходнымі дзьвярыма — надпіс: Byelorussian Minsk. Уваход упрыгожвалі тры сьцягі: канадыйскі, беларускі і каравану. Зала была ўдэкаравана беларускім народным мастацтвам. На сцэне — аркестра, праграма беларускіх танцаў.

Беларуская Моладзь пасябравала хутка з моладзьдзю іншых нацыянальнасьцяў. Ад працы, ад танцаў нашая моладзь асталася «бяз ног»! Але зрабіла вялікую прапаганду беларускага імя — нашае справы, гасьціннасьці і мастацтва. — Жыве Беларусь!

*

## ЛЕКЦЫІ БЕЛАРУСАВЕДЫ

Дня 18 траўня 1971 у Бурлігнтон Гоўзэ ў Лёндане меў чарговую лекцыю Якуб Дынглей на тэму: «Войска ў Вялікім Княстве Літоўскім у XVI стагодзьдзі.»

Было шмат прысутных, асабліва беларусаў і летувісаў.

І дня 1 чэрвеня 1971 ў тым самым палацы адбылася апошняя лекцыя з вызначаных на гэты год сп. Г. Пікарды на тэму:

«Абычаёвы копны суд і права ў Беларусі: іхні парадак, засяг і працэдура».

Гэтай лекцыяй Г. Пікарды быў закончаны пяты з чаргі курс з гісторыі, літаратуры і мастацтва Беларусі, які арганізавала Ангельска-Беларускае Таварыства.

---

## ВОДГУКІ Ў ПРЭСЕ

**Адчыненьне Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны у Лёндане.**

**Тут падаемо ў храналягічным парадку прэсу, якая зацікавілася урачыстасьцю адчыненьня Беларускай Бібліятэкі і Музею.**

**The Times**, 17. V. 1971, бач. 14.

**The Finchley Press**, 21. V. 1971, бач. 14. Артыкул: «Exiles' poignant ceremony» (Глыбока — чульлівая ўрачыстасьць уцекачоў).

**Finchley Times**, 21. V. 1971, бач. 14. Артыкул са здымкай Апостальскага Дэлегата: «Byelorussian Library opened in Finchley» (Беларуская Бібліятэка адчыненая у Finchley).

**Dzieńnik Polski i Dzieńnik Żołnierza**, 24. V. 1971, бач. 4. Артыкул: «Białoruska Biblioteka w Londynie» (Беларуская Б. у Лёндане).

**Chrysostom**, Vol. III. № 1, Spring 1971, бач. 14. Артыкул: «Bylorussian Library in London» (Беларуская Бібліятэка ў Лёндане).

**Божым Шляхам**, № 3 (126), 1971, бач. 1-6. Артыкул падпісаны Д.. «Беларуская Бібліятэта і Музэй імя Францішка Скарыны адчыненыя»

**Беларус**, Vol. XXI № 170, 1971, бач. 5. Артыкул Раісы Жук Грышкевіч: «Беларуская Бібліятэка і Музей Францішка Скарыны ў Лёндане».

**The Tablet** 5. V. 1971, бач. 548. Артыкул напісаны G. Picarda: «The Erasmus of Byelorussia» (Беларускі Эразм).

**Dzieńnik Polski i Dzieńnik Żołnierza**, 6. VII. 1971. Ліст В. Раманава-Гловацкага: «W sprawie Biblioteki Białoruskiej w Londynie» (Аб Беларускай Бібліятэцы ў Лёндане).

Апрача адозваў у прэсе блізу ўсе галоўныя бібліятэкі ў сьвеце атрымалі брашуру ў ангельскай мове аб Беларускай Бібліятэцы і Музэі у Лёндане і ўсе яны прыслалі падзяку.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Аднак цягне!..

«Да чаго бык прывык, да таго і рыкае», так часта гаварыў мой бацька. Хоць я ўжо і напароўся на рыбацтве не адзін раз, — усё-ж не-не дый заскрабе за сэрца зноў да вады мяне цягне!...

Мне піша брат з дому, што рыба ў Нёмане пераўелася: калі хто зловіць штучку з паўкілаграма, дык ужо вялікае дзіва, бо звычайна трапляецца драбяза. Аднак вось мне дзіва, што тут. у акіяне, прападае рыба! Няма таго, што было — скажам — 15 год таму. Тады не здаралася вярнуцца з парожнімі рукамі, а прынясеш досыць і добрай, смачнай рыбы... А цяпер прасядзіш цэлы дзень дый толькі нэрвы стузаеш: з чым паедзеш, з тым і вернешся, — хаця, праўда, і ня з тым, бо чарвякоў у цябе здзяруць, а прыбытку й няма!

І чаму-ж такая маркота?! бо рыбы тут поўна, а злавіць нельга... Чаму так? Бо (ліха ведае скуль?) зьявілася нейкая маленькая рыбінка — з палец даўжыні — (і да таго — атрутная!) Для яды ня толькі не здатная, а вельмі — да сьмерці — небасьпечная!... Дый набіраецца яе процьма: абрывае чарвяка і не дапускае лепшай рыбы. — Зазлуеш, бывала, дый скажаш: — Прападзі ты! больш не паеду... — Але, як здарыцца вольная часіна, зноў падумаю: — Ану-ж спрабую яшчэ «шчасьця»!...

Дый што мне да шчасьця патрэбна? — Добрае надвор'е, вольная хвіліна, спраўныя вуды, тлустыя чэрві, добрае месца на беразе мора і... згода жонкі. Бо-то ўсе жонкі ня сьвеце аднолькавыя і ўсе яны гамоняць на адзін капыл: — Мейжа ты розум! Ты — стары і ня дурны мужчына, а бегаеш да мора, як хлапчаня якое!

Хоць-бы ты злавіў што...

— Золатка ты маё! Васілёчак сіненьнькі, — адказваю я далікатна: — гэтым разам злаўлю абавязкова... Глянь, якое надвор'е; на чарвякоў паглядзі: сам-бы, здаецца, іх еў-бы! Дык — кажу табе — рыба будзе, як...

Але яна майму слову ня верыць, а на чарвякоў і глянуць ня думае, а толькі ўздыхне: — Праўду твой бацька казаў, што ты — дзед і больш нічога!... Ну, едзь сабе! — Пусьціла...

*

А мяне можа ня так цягне тая рыбіна, як люблю пазіраць на наваколле — на прыроду, удыхаць поўньмі грудзьмі сьвежае-саланаватае паветра, а адначасова адпачываць целам і душою дый успамінаць дарагую Бацькаўшчыну, як калісьці раньняй парою хадзіў вудзіць на Нёман...

Значыць, раненька выходжу і тут, сеўшы на цеплаватым яшчэ камені — пасьля гарачага ўчарайшага дня — над самым берагам мора, я пачынаю ўцягваць маладое паветра, нічым яшчэ не забруджанае. Зірнуў навакол — гэта быў маладжавы зелянеючы сьвет; падняў галаву вышэй — верацёны пёрыстых воблакаў былі працягнуты праз усё неба, — такі цудоўны від, які злажыўся на некалькі хвілін. І гэта мусіць толькі для мяне аднаго ў ва ўсім горадзе?... А праз вырэзку ў карунках хмараў плыў яшчэ добра відны чаўначок вышчэрбленага месяца.

Так гэта быў чароўны ранак: можна сказаць — сьвет стварыўся нанава, сапраўды выключна для такога чалавека, які ўмее аглядаць і захаваць і захапляцца такімі цудамі!

І сам юнак-месяц быў якраз той, што так бывае прыдатны ўлюбленым — сьветлы, ясны, весялун! А сонца сумнявалася — усходзіць ці не? **Адценьне зары разыйшлося па кустох.**

І тут бязвольна наплываюць у маей фантазіі мары-ўспаміны, як калісь на Бацькаўшчыне хадзіў да ўсходу сонейка лавіць рыбу у Нёмане... — Вось я — над берагам ракі: ціха плыве празрыстая цёплая вадзічка; а над ракой і над лугамі вісіць кудзеля сівога туману, дый з паза Войнаўскага лесу — з паза кучаравай хмаркі выплывае сонца й пачынае расчэсываць сваімі яскравымі праменьнямі клубы гэтае кудзелі, дый зьнячэўку даткнецца да дрэмлючай птушачкі (івалгі) — як яна залапоча крыллямі ў кусьце дый радасна засьвішча. Я аж пьянею ад такой прыгожасьці!... Па буйна расной траве — па сьцяжынцы — перабіраюся да берагу Нёмана, ціха падкрадываюся да глыбокае яміны, скуль ужо напэўна выйшлі жыраваць акуні, ляшчы, язі... — Ах, думаю, тут-то я вас насьцёбаю! —

Салаўі аж заліваюцца! Дый іншыя птушачкі — таксама — аж нельга сабе ўявіць, ці ў вушах табе зьвініць, ці навакол лазьняку ўсе іграе? А за ракой у дубняку гукала зязюлька — з дзесятак разоў, пасьля зарагатала дый сьціхла... І пара маладых конікаў падыйшлі да ракі, увайшлі па калені дый пьюць. Раптам паднялі галовы й хіба прыкмецілі мяне на другім беразе, раздулі ноздры, фыркнулі і пусьціліся галёпам па выгане — аж рэха пранеслася далёка панад вадою!...

О, каб налавіць такіх лешчыкаў, што блішчаць серабром на сонцы дый насмажыць іх у алеі, паваляўшы перш у пшонны муццэ, дык было-б аб ядзеньне! — пальчыкі пализаць — беларускі прысмак. А й яшчэ наварыць юшкі тутжа на берагу Нёмана!... Так! Вечарам, калі закоціцца сонейка, як пачнуць вясёлы канцэрт стракозы ў мураве, трэба ўладкавацца дый распаліць вогнішча, — вось тады зварыць тую беларускую юшку, — сапраўды цудоўна, — сам цар такой не каштаваў! Дыхаць водырам лазьняку, траваў, піць сьцюдзёную крынічную вадзіцу, слухаць таёмнае шаптаньне дубовага бору...



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Што можа быць прыгажэйшае і прыямнейшае на сьвеце? А гэта ў нашым родным краі — паўсюдна і вечна — там, дзе руч'і й рэчанькі чыстыя, дзе вазёры празрыстыя, лугі духмяныя, дык паветра такое, што п'еш яго з асалодай, як сьвежы бярозавы сок — аж п'янееш!...

А я ўсё яшчэ на берагу Нёмана! Прыгрэла сонейка, між лазьняку праляцеў вецярок — аж зашапацелі лісточкі!

*

Але-ж я цяпер над морам!... Марская гладзь аж да небасхілу была спакойная — адно толькі паблескавала на сонцы як вялізарная — бязьмерная шыба. Ціхенькі прыбой шапацеў на прыбярэжнай гальцы. Але мне трэба, калі прыехаў на рыбарства, гэтым і заняцца, бо ні фантазіі, ні ўспамінаў на патэльню не паложыш, алеем не падальеш дый не ўкачаеш у муку. Значыць, трэба, калі прыехаў, прабаваць шчасьця. Дык вось чапляю самага тлусьцейшага чарака на кручок і... (прызнаюся вам) — дрыжаць пальцы!...
Бо сёлета яшчэ ніразу не падчапіў ніводнае рыбіны, апрача гэтае дакучлівай, здрадніцкай драбязы. Закідаю вуду і шапчу: — Лавіся, рыбка, вялікая-найбольшая!...

— О-ох! Торкае-бярэцца!... Хаця-бы вуды не парвала? Кудь-куды — ты пад каменьні нясешся?... Здаравенная, відаць, штука, як палена!...

— Ужо-ўжо, мая! — Б'ецца на каменьнях — аж сэрца калоціцца ў грудзях! І дзіва, што першая такая трапілася дый ня ведаю, як і называецца? А па ангельску скажу, дый ня ўсе чытачы знаюць ангельскую мову і ня ўсе жывуць у Аўстраліі... Дык па нашаму будзе «скураная сьвітка», бо не мае люскі, а цёмна-зялёна-чырвоную скуру, вельмі моцную — трэба здзёрці і там будзе белае далікатнае мяса. Апрача касьцяка ня мае больш касьцей-жэбраў.

Я так і меркаваў, як цягнуў, што вялікая як пранік, а шустрая, як гадзіна і круціцца як віюн. — Ну, жонка, што цяпер мне скажеш?

І шчасьліва, што я тут-адзін: ня люблю лавіць у грамадзе, бо зараз знайдзецца «разумнік», які пачынае вучыць: — «Перамяні паплавок! кручок у цябе не такі, сядзіш дрэнна... — Або прыстане: «Дай чарвякоў! мае скончыліся...

А рыбалоў — чалавек спагадлівы: дасьць ці пазычыць самую важную рэч, нават рыбы дасьць! Але чарвякоў вы не прасіце — не дасьць ні за што! асабліва, калі рыба бярэцца... А якраз да мяне ідуць самыя важныя рыбіны і я-ж іх хапаю, толькі каб не надыйшла тая — праклятая дакука! І вось, толькі я гэта падумаў, як і наляцела іх целая плойма, як чорная хмара!... Што-ж рабіць? Нічога не парадзіш, а складывай вуды і зматваўся сам дамоў, няўдачлівы.

Кастусь Чабатар!...

а. Я. Г.

# Рай — першыя людзі

*Людзей найпершых Бог стварыў*
*Дый іх багата абдарыў —*
*І так духова, як фізычна.*
*Так ідэова, як практычна:*

*Здароўе, радасьць і дастатак,*
*Фізычна праца, як дадатак,*
*Вада, паветра, роскаш раю —*
*(Я-ж гэта ў Біблії чытаю!) —*
*Далося дарма чалавеку —*
*Празначана аж да век-веку!*

*Далінай рэчка праплывала,*
*Тры рукавы з сябе пускала —*
*Цудоўная, жывая рэчка!*
*Як тая плодная авечка,*
*Што родзіць гурт — ягнятак трое*
*І рада водзіць іх з сабою...*

*Ну, ад людзей Бог дамагаўся,*
*Каб чалавек не зазнаваўся,*
*А па сваей — па добрай волі —*
*Ад Бога не адстаў ніколі!*

*А рай быў сад такі чароўны —*
*Прыгожых, плодных дрэваў поўны:*
*Там кветкі круглы год цьвілі —*
*Аж проста скончыць не маглі!*

*

*Адам нікога не баяўся:*
*Дзе толькі раз хоць паказаўся,*
*Усё, што ў раі дзе жыло,*
*Да рук ляцела дый ішло...*

*Ён зайца гладзіў па галоўцы:*
*Ваўкі падходзілі, як оўцы,*
*І львы і тыгры, іншых шмат —*
*Людзей пабачыць кожны рад!*
*Усе зьвяры людзей любілі:*
*Па свойму з імі гаманілі,*
*Бо людзі ня бывалі ласы,*
*Як мы цяпер, на кроў, на мяса.*

*Хоць людзі ў раі былі голы,*
*Іх ня кусалі мухі, пшчолы:*
*Іх Ева сьмела — бяз прынукі —*
*Мышэй і гадаў брала ў рукі...*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

*

*Зямлю-плянэту добра знаем,*
*А дзе той рай? Не разгадаем!..*
*Хоць людзі часам інша баюць*
*І пекла раем называюць,*
*Бо ім, няшчасным, так здаецца —*
*Аж хітры чорт з таго сьмяецца!*

*

*Паміж раскошных райскіх дрэвяў*
*Расьлі два дрэвы — каралевы:*
*Адно — прыгожа, дый шчасьліва —*
*Жыцьцё ўзмацняла, як на дзіва!*
*Адам і Ева яго зналі —*
*«Дрэвам жыцьця» — так называлі.*
*Чым больш тых фруктаў з яго елі,*
*Тым больш сілу ў сабе мелі!..*

*Душа вяліку радасьць мела*
*Дый несьмяротна было цела!*
*(Каб грэх тады ня прымяшаўся,*
*Дык рай у спадку й нам дастаўся-б!)*

*Расло другое — сымпатычна —*
*Дый, як спакуса, недатычна:*
*Казаў Бог: — Людзі, Мне паверце! —*
*Яно — пад карай вашай сьмерці. —*
*«Дабро і Зло» яно завецца —*
*Якраз па гэтым пазнаецца ... —*
*Свабодна з іншых спажывайце:*
*«Дабра і Зла» — бач! — не чапайце! —*
*Яго абходзьце асьцярожна,*
*А рваць дый есьці — не, ня можна! —*

*

*Шчасьлівы рай быў, Моцны Божа! —*
*Мілей таго нат' быць ня можа!*

*Адам і Ева, ўстаўшы зраньня,*
*Сьпявалі Богу прывітаньне —*
*Любоў, падзяку за ўсе дзівы*
*І за жыцьцё — за рай шчасьлівы!*

*Ды між зьвяроў сам — наймудрэйшы*
*Быў зьмей бліскучы, найхітрэйшы:*
*Ён часта ласіўся да Евы —*
*Да маткі нашай — каралевы. —*
*А Ева так яго любіла,*
*Што гладзіла й гаманіла! —*
*Адным ён толькі быў бракоўны,*
*Што немы быў, як пень бязмоўны.*

*Хоць Ева часта дружна й міла*
*Яму сакрэты гаманіла,*
*Дык ён круціўся пад кустом,*
*А толькі ляпаў ёй хвастом ...*

*Адам, па праўдзе — ня быў рад*
*Ні са зьмяя, ні з зьмяят,*
*Што Ева аж на рукі брала*
*Дый гладзіла — аж цалавала!*

*Сьмяяўся з жонкі: — Ой, ня можна!*
*— Будзь з гэтым гадам асьцярожна,*
*Бо ён гняздо сваё трымае*
*Ля дрэва «здрады» ў нашым раі,*
*Што Бог назначыў нам на спробу —*
*Пад страшнай карай сьмерці й гробу!*

*А Ева кажа: — Помню, знаю:*
*Я-ж тое дрэва абнімаю. —*
*Аднак мой зьмей — такі прыгожы, —*
*Сказаць-бы можна — анёл Божы:*
*Бліщчыць на сонцы гэтак слаўна,*
*Ну, як вясёлка, так забаўна!*
*Дый ты па свойму гэтак мерыш,*
*Каб я жыла, — ты мне ня верыш!..*

*Адам казаў: — Ах, мая міла!*
*І што-ж ты мне нагаманіла?*
*Як я цябе люблю, мілую, —*
*Дык сто разоў дай-пацалую! —*
*Ён памыліўся, як ніколі —*
*Даў пацалункаў двойчы болей!..*

*

*Казала Ева: — Што гамоніш?*
*Мяне судзіў — сябе бароніш:*
*Сваіх ты маеш улюбенцаў —*
*Сабак, зуброў ды іншых «немцаў».*
*А каго ў раі маю я? —*
*Толькі вось райскага зьмяя!*

*Такі прыгожы ён бязьмерна*
*І так глядзіць мне ў вочы верна! —*
*Хоць мы і любімся з табой,*
*Ты-ж уступі — зьмей будзе мой!*

*— А мне на што-бы ён прыдаўся?*
*Як хочаш ты, каб я прызнаўся,*
*Скажу табе, што ён мне дзіўны,*
*І нейкі дужа супраціўны:*
*Чаму ўсё гэта, сам не знаю,*
*Каб мог, прагнаў-бы яго з раю!..*

*Казала Ева: — А я знаю, —*
*Што мая думка — ўся другая:*
*Прыемна нам у раі жыць,*
*А мне няма з кім гаманіць!*
*Што-ж мне рабіць?*
*Пайду зьмяя свайго вучыць! —*
*А гэты зьмей —*
*Пры зручнасьці усей —*
*Маўчыць!.....*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Люцыпар і Бэльзэбуб

*ЛЮЦЫПАР — чорт, (ён хітры быў),*
*Да БЭЛЬЗЭБУБА гаманіў:*
*— З табой мы ў пекле — верхаводы —*
*Нельга цярпець нам гэтай шкоды,*
*Што людзі будуць вечна ў раі,*
*Калі мы ў пекле прападаем!*

Я маю плян — ты памажы:
У хітрасьць працу прылажы;
Давай — сьпіхнём людзей з дарогі,
Каб нібы сталі так, як «богі»!
Мы будзем мець такую ўцеху,
Што угрунтуем царства грэху:
Наступіць слаўна катастрофа
Насупраць Бога-Саваофа! —
Чарцей і пекла перамога
Супраць анёлаў, неба й Бога!..
Зь людзьмі мы зьвяжам цесну дружбу —
Так перацягнем іх на службу. —

*БЭЛЬЗЭБУБ:*
*— О, я з вялізнаю ахвотай*
*Займуся здрадніцкай работай!*
*Замест між зоркамі буяць —*
*Людзей дай — будзем абрабляць...*

*ЛЮЦЫПАР:*
*— Нашто пустыя размаворы?*
*Лепш у пякельным нашым горы*
*Адразу да людзей прыступім —*
*Жанчыну першую падкупім!*

*Падзелім ролі між сабою:*
*Зьвяра я маю пад рукою —*
*Зьмяя таго, што ў дружбе з Евай —*
*Цікавай сьвету каралевай. —*
*Зьмяя на воку ўжо трымаю —*
*Дый з іхняй дружбы скарыстаю...*

*БЭЛЬЗЭБУБ:*
*— Я лапу дам табе чартоўску*
*І дзеіць буду па такоўску:*
*Вазьму Адама пад апеку. —*
*О, дам я раду чалавеку!*
*Каля яго як пахаджу,*
*Сумніў да Евы разбуджу:*
*На недавер перш дам прагнозы,*
*А ўсё дальш зробяць жонкі сьлёзы.*

*Няхай была-бы і неўдача,*
*Не страчу я сваей надзеі,*
*Бо, як жанчына раз заплача,*
*Мужчына зразу абамлее!..*

*ЛЮЦЫПАР:*
*— Таварыш-брат і супрацоўнік!*
*Я — генэрал, а ты — палкоўнік!*
*Да працы нашае засягу*
*Дадзём партыйную прысягу:*

*«Мы прысягаем на праклёны —*
*На зло, на фальш, на перагоны,*
*І на шкліёнства, на злачынства*
*На подступ дый на інша сьвінства!»*

*У Бога праўда ёсьць адвечна,*
*А ў нас няпраўда — бесканечна!*
*Даю праграмы першы тон:*
*«Махлярства» — вечны наш закон! —*

*

*Нарэшце момант надыйшоў:*
*Люцыпар у зьмяя ўвайшоў*
*І так яго пасьпеў упутаць,*
*Каб праз яго людзей ублутаць!*

*А Ева з тым зьмяём штодня*
*Жыла у дружбе, як радня —*
*Аж без яго ня ўмела жыць*
*Дый ўсё вучыла гаварыць...*

*Аж вось аднойчы на зараньні —*
*Пры першым зараз прывітаньні —*
*Гукнуў зьмей Еве: — Добры дзень! —*
*Аж змоўкла Ева, як той пень...*

*Пытае ў страху: — Быць ня можа!*
*Ты як гаворыш? — Божа-Божа!*
*Бо ў нас нарушаны разьмер, —*
*Ніякі-ж не гаворыць зьвер...*
*Ці ты сам — вольны, ці з прымусу?*
*І ці не ўпала я ў спакусу? —*

*ЗМЕЙ кажа: — Ах, паслухай, Ева!*
*Ты — ўсяго сьвету каралева:*
*Сама мяне, мая ты міла,*
*Вучыла — шмат мне гаманіла. —*
*А я цярпеў — ня мог стрываць, —*
*Дый не магу сябе стрымаць:*
*Дык вось з патрэбы, а ня з дуру*
*Я праламаў сваю натуру! —*

*Далей любові ня скрываю,*
*Што да цябе я ў сэрцы маю,*
*Бо ты — аздоба ўсяго раю!*
*Гляджу — ўсё болей падзіўляю...*
*Бо якжа гэта магло стацца,*
*Каб хто з табой мог раўнавацца?*

*Ні кветкі ўсе, бо я-ж іх знаю,*
*Ані ўсе цуды ўсяго раю!*
*Даю на гэта сваю голаў,*
*Што ты цуднейша ад анёлаў!*
*Няма такога больш нікога, —*
*Хіба-ж раўняць цябе да Бога?.. —*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

*Здрантвела Ева, як стаяла:*
*Наўкол на кветкі паглядала —*
*Ёй радасьць грудзі расьпірала,*
*А сэрца жыва трапятала . . .*

*

*Люцыпар крок зрабіў паважны.*
*А хто чытае, бачыць кажны,*
*Што сэрца Евы ў плен узята —*
*Яна ў руках у супастата!*
*Пятля закінута на шыю, —*
*Што будзе? Ах, няхай Бог крые,*
*Бо толькі пацягнуць съмялей,*
*Дык згіне матка ўсіз людзей! —*

*У сэрцы маткі ўсе замкнёны! . .*
*Мільярды змножыць на мільёны! . .*

*О, Ева, чалавецтва маці!*
*Ты — матка кажнага дзіцяці —*
*Патомства, як пяску марскога:*
*Ці не жалееш з нас нікога?*

*Твой грэх спадзе, як гром на голаў*
*Загубіш нас — загіне рай . . .*
*Пашлі, о, Божа, ёй анёлаў —*
*Ад съмерці матку захавай! —*

*Людзям Бог, даўшы вольну волю,*
*Ніяк ня можа іх прымусіць:*
*Дабро і зло усім пазволіў,*
*А чорт стараецца спакусіць . . .*

---

## ПРАВІЛЫ І РАДЫ СЬВЯТОГА ФРАНЦІШКА САЛЕЗАГА

Паступай верна ў Божай прысутнасьці, сьцеражыся лёгкамысснасьці і баязьлівасьці, якія твораць найбольшую перашкоду ў поступе да дасканаласьці.

Усё трэба рабіць з любові, а ня з прымусу і барджэй Бога любіць, чым Яго баяцца.

Хто любіць Бога звыш усяго, той ніколі ня сумуе, хіба толькі тады, калі Яго абразіць.

Хто жыве дзеля Бога, той часта думае аб Ім у штодзённых занятках.

Бог трымаў цябе да гэтае хвіліны, дык вер моцна ў Яго сьвяты Огляд! Бог заўсёды прыйдзе табе памагчы . . . Туды, куды ты сам ня здолаеш прыйсьці, Ён панясе цябе на сваіх руках.

Умацуй у сэрцы сваім Хрыстовы Крыж, а тады крыжы з гэтага сьвету будуць табе салодкімі.

Шчасьлівы, хто ўсюды шукае Бога, бо ён усюды знайдзе Таго, Каго шукае.

Шчырую, руплівую любоў найлепш пазнаць можна пасярод церняў, крыжоў і няпрыемнасьцяў, асабліва тады, калі нашыя цярпеньні трываюць даўжэй.

Нішто так не дае нам глыбейшага супакою душы, як частае і глыбокае разважаньне цярпеньняў Хрыстовых, якія Ён пераносіў ад нараджэньня аж да сьмерці: пагарду, паклёпы, убогасьць, пакору і ўсялякія цярпеньні.

---

## ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

Абадранцы пайшлі ў танцы, галабокі пайшлі ў скокі.
Абараняў воўк авечку, дый зьеў.
Абедаў, а жывот ня ведаў; не пад'еў, а замурзаўся.
Ад Бога — грэх, ды ад людзей — сьмех.
Ад бяды уцёк, ды ў гора трапіў.
Ад вялікага сьмеху да сьлёз недалёка.
Ад добрага не ўцякай і ліхога не рабі!
Адзін сюды, другі туды, а трэці — ні зь месца!
Адзін чорт бедны, бо ён душы не мае.
Адзін — чорт ды і той умазаўся.
Аднаму ліецца, а другому ані капае.
Адна бяда — не бяда, дзьве бяды — паўбяды, а як трэцюю надыбаеш, вот тады бяду спазнаеш.
Адна бяда ня ходзіць, другую за сабою водзіць.
Адзін — восемнаццаць, а другі — бяз двох дваццаць.
Адна галавешка і ў печы не гарыць, адзьве — і ў полі не гаснуць.
Аднаму кіўнуў, другому маргнуў, а трэці й сам дагадаўся.
Не ганарыся званьнем, а ганарыся ведамі.
Не кажы «вучыўся», а кажы, што пазнаў.
Ня той многа ведае, хто доўга жыў, а той, хто многа вучыўся.
Новага ня дзічыся, а ня ведаеш — вучыся.
Умелыя рукі — памочнікі навукі.
Чалавек нявучоны, як тапор нетачоны.
Лепш сьмерць на полі, чым жыць у няволі.
Адзін сьцее — дзесяць пацее.
Багаты брат беднаму брату ня рад.
Белыя ручкі чужую працу любяць.

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Пытаецца стары дзядзька: «Што лепш, ці класьціся па сьмерці ў сырую магілу — па даўнейшаму? — Але на эміграцыі вельмі цяжкая зямля! — Ці можа лепш падацца па сьмерці ў пражарку-крэматору? — Але... тут агонь страшэнна гарачы!».

Рэдакцыя ня ведае, што яму парадзіць? — Памажыце, ласкавыя чытачы.

## БЕЛЫ І ЧОРНЫ

Падружылі два бойкія хлопчыкі — белы і чорны.

БЕЛЫ: — Табе лепей, бо табе ня трэба мыцца!
ЧОРНЫ: — Чаму мне ня трэба?
Б.: — Ну, бо ты ўсёроўна чорны...
Ч.: — Ды і табе ня трэба мыцца!
Б.: — Эгэ! Чаму-ж мне ня трэба?
Ч.: — Таму й ня трэба, бо ты ўсёроўна белы...
Б.: — О, дык мы з табой — самыя шчасьлівыя!

УВАГА: А чаму старшыя людзі так ня ўмеюць згаварыцца і падружыцца?

## ШТО ДУМАЎ ЛЕНІН?

На XXIV Зьездзе партыі ў Маскве пастаноўлена:

1) Пісьменьнікі, кампазытары, маляры, хоры і салісты павінны пісаць, маляваць, сьпяваць, танцаваць у адзін тон — у такі, «Што думае партыя?».

2) А партыя павінна сьпяваць у тон: «Што думае Тройка?».

3) Тройка павінна паўтараць у тон: «Што думае Брэжнёў?».

4) А сам Брэжнёў будзе выдумываць у тон: «Што думаў Ленін?».

А хто не трапіць у назначаны тон, пойдзе ў вар'яцкі дом!...

Аднак Мао-Цэ-Дун на гэта кажа, што Брэжнёў — дурны!

А Брэжнёў яму адказвае, што Мао-Цэ-Дун — вар'ят!

І гэтыя два каруюць больш чым мільярдам людзей!!!

## ХТО ЛЕПШЫ?

— Як ты, суседзе ўважаеш, хто лепшы — камуністы ці капіталісты, бо абодвы хваляцца, што яны стаяць за народ?

— А ці-ж ты ня ведаеш байкі, як воз і сані пыталіся каня, хто з іх яму лепшы. А конь сказаў: «Абодвы вы — чэрці: мазоліце мне плечы!...»

## ВОЧЫ Ў НОСЕ:

Сабака бег дарогай, трымаючы нос пры самай зямлі. Хлопчык убачыў дый пытае: «Чаго ты шукаеш?»

А сабака кажа: «Гаспадара шукаю!»

Хлопчык засьмяяўся: «Дык трэба глядзець, а ня нюхаць!...»

А сабака — яму: «Нос лепшы чым вочы — нос бачыць і ў ночы...»

---

## ЗЬМЕСТ

| | |
|---|---|
| Сучасныя сацыяльныя праблемы | 1 |
| Д. Анісько: «Каб ты ведала дар Божы...» | 2 |
| Др. Т. Падзява: Хрыстос і Маладая Амэрыка | 3 |
| а. Я. Г.: Словы аб пакуце | 4 |
| а. Т. П.: Наша эпоха | 6 |
| а. А. Надсон: Рэцэнзыя — Like water, like fire | 7 |
| З царкоўнага жыцьця | 8 |
| З нашае мінуўшчыны: Наш тэатр (разважаньні М. Гарэцкага) | 9 |
| З найдаўнейшае мінуўшчыны | 11 |
| Успаміны аб сьв. пам. інж. Адольфе Клімовічу | 12 |
| Пішуць да нас | 14 |
| З беларускага жыцьця | 14 |
| К. Чабатар: «Аднак цягне!..» | 17 |
| а. Я. Г.: Першыя людзі — Рай (верш) | 18 |
| Прыказкі і прымаўкі | 21 |
| Сучасныя жарты | 22 |

Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010